

# Беларус

«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь зьяўляецца беларуская мова».
— *Канстытуцыя РБ, Артыкул 17.*

№ 427 Верасень 1995
Год выд. 44

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00


## *ВОБРАЗ БЕЛАРУСІ Ў СЬВЕЦЕ*

**Да 50-х угодкаў уваходжаньня Беларусі ў ААН**

Калі-б сабраць з усяго сьвету скупыя і несыстэматычныя паведамленьні заходніх сродкаў масавай інфармацыі пра падзеі ў Беларусі за гры-чатыры апошнія гады (прэм'ерства Вячаслава Кебіча і прэзыдэнцтва Аляксандра Лукашэнкі), дык перад намі паўстаў-бы вобраз (імідж) краіны, якая аніяк ня можа расстацца са сваёй савецкай мінуўшчынай. Беларусь магла-б служыць ці не найбольш зыркай ілюстрацыяй да выслоўя: «назад у будучыню». Пра разгубленасьць перад заўтрашнім днём, імкненьне трымацца «плоту гісторыі» асабліва графічна сьветчыць цяпер беларуская нова-старая дзяржаўная сымболіка, што кладзе акцэнт не на стагодзьдзі нацыянальнай гісторыі, а на дзесяцігодзьдзі гісторыі савецкай, гісторыі ярказ таго пэрыяду, калі камуністы праводзілі генацыд і русыфікацыю Беларусі. Цяпер коштам вялізарных грашовых затратаў на сымболіку бальшавіцкага пэрыяду разыходзіцца па цэлым сьвеце ўяўленьне пра беларусаў, як пра народ, што стаіць на гістарычным раздарожжы і ня ведае, у які бок пайсьці. Сьвет-жа мае сваю мерку, свае крытэрыі для ацэньваньня народаў. Гісторыя чалавецтва паказала ўсім, што нацыянальная дзяржаўнасьць сталася сёньня аптымальнай формай існаваньня народу. Палітычная незалежнасьць і дэмакратыя даюць народам найбольш магчымасьцяў задавальняць свае патрэбы. І калі зь Менску ідуць паведамленьні, што беларусы адмаўляюцца ад прынцыпаў нацыянальнага сувэрэнітэту (пра махінацыі, якімі гэтая адмова дасягаецца заходнія крыніцы, на жаль, не заўсёды пішуць), дык цэлая краіна выглядае непаўнавартаснай па міжнародных мерках.

Пра якія падзеі і тэндэнцыі ў Беларусі падавалі апошнімі гадамі заходнія агенцтвы друку? Пра імкненьне да эканамічнага зьліцьця з Расеяй, паварот да савецкага сьцягу і гэрбу, варожае стаўленьне да НАТО і спыненьне выкананьня міжнароднага забавязаньня па зьнішчэньні звычайных відаў зброі, фізычны гвалт над парлямэнтарыямі, канфрантацыю паміж урадам і парлямантам, парушэньні выканаўчай уладай Канстытуцыі, прэзыдэнцкі аўтарытарызм, арышт прафсаюзных лідэраў, заціск свабоды друку, паклёпы на апазыцыю ў урадавых публікацыях і да гэтага падобнае. Даходзіць да анэкдотаў. Ройтэр нядаўна перадаў гэткае паведамленьне зь Менску: У Беларусі выпушчаны банкнот з дэнамінацыяй у 50 тысячаў рублёў, што раўняецца пяці далярам. Банкнот падпісаны прэзыдэнтам Нацыянальнага банку Станіславам Багданкевічам, які ўчора падаўся ў адстаўку.

А цяпер да ўсяго дайшло яшчэ і безадказнае састрэленьне амэрыканскага балёну ды сьмерць ягоных двух пасажыраў.

Праўда, сьвет даведваецца з паведамленьняў сёе-тое і пра нацыянальныя імкненьні беларусаў, пра дэмакратычную апазыцыю, пра намаганьні адрадзіць гістарычную спадчыну, нацыянальную мову і культуру. Але дамінуюць над усім весткі адмоўнага характару, у сьвятле якіх Беларусь выглядае краем закарэлага кансэрватызму і рэакцыйнасьці дзяржаўнага кіраўніцтва.

Прыход да ўлады прэзыдэнта Лукашэнкі асабліва падмацаваў такое ўражаньне, і гэта аніяк ня спрыяе ані замежным інвэстыцыям, ані турызму, ані культурнаму абмену. Краіна, якая ня хоча быць сама сабой, якая пагарджае сваім уласным калярытам, адмаўляецца ад свае індывідуальнасьці, імкнецца спажываць культуру свае суседкі, быць ейнай правінцыяй, ня можа зацікавіць патэнцыяльных турыстаў, капіталаўкладчыкаў, журналістаў, падарожнікаў. Замежнікаў цікавяць краіны-арыгіналы, а ня копіі ўжо ведамых культураў.

Перад Беларусяй, якая хоча прыцягнуць да сябе ўвагу заходняга сьвету, стаіць вялікая псыхалягічная перашкода — вобраз (імідж) краіны з другасным характарам, краіны-імітанта, як вынік дзейнасьці ейных дзяржаўных кіраўнікоў. Гэтую псыхалягічную перашкоду можна было-б з часам зьменшыць, а можа й зусім адсунуць набок, калі-б палітыка беларускай дзяржавы была скіраваная на адраджэньне свайго нацыянальнага гістарычна-культурнага багацьця ды пашану прынцыпаў дэмакратыі і правоў чалавека. **Янка Запруднік**

### ЧОРНЫ СЬПІС НЕНАДЗЕЙНЫХ ВЫДАЎЦОЎ

Зь менскіх паінфармаваных колаў даведваемся пра сакрэтную інструкцыю, разасланую Камімэтам Дзяржаўнай Бясьпекі па рёнах, з дырэктывай высочваць крытычныя выказваньні ў друку пра ўрадавыя асобы і паведамляць пра гэта ў вышэйшыя інстанцыі. Назіральнікі прадбачаць, што наступным крокам будзе скасаваньне некаторых палажэньняў у законе аб друку.

## СЬМЕРЦЬ ДВУХ АМЭРЫКАНЦАЎ У БЕЛАРУСІ ЎЗДЫМАЕ ШЭРАГ ПЫТАНЬНЯЎ

Састрэленьне ў небе Беларусі ў раёне пасёлку Бяроза Берасьцейскай вобласьці 12 верасьня сёлета амэрыканскага балёну і гібель ягонага двухасабовага экіпажу, Алэна Фрэнкеля і Джона Стуарта-Джэрвіса, выклікала шырокі водгук у міжнародных сродках масавай інфармацыі. Газэта «Нью-Ёрк Таймс», прыкладам, апублікавала шэсьць матар'ялаў на гэтую тэму. Камэнтатары параўноўвалі тое, што здарылася ў Беларусі, да састрэленьня 12 гадоў таму на Далёкім Усходзе карэйскага пасажырскага самалёту. Але-ж тады былі часы халоднай вайны...

Дзяржаўны Дэпартамант Злучаных Штатаў востра асудзіў акт састрэленьня балёну, а таксама факт маўчаньня беларускіх уладаў пра інцыдэнт на працягу 24 гадзін. Апрача састрэленьня аднаго балёну, два іншыя былі прымушаныя беларускімі паветранымі сіламі прызямліцца. Двухасабовы экіпаж аднаго зь іх адразу-ж пакінуў Беларусь, а двум іншым балянiстам, коратка затрыманым, давялося перад выездам зь Беларусі заплаціць па 30 даляраў за тое , што яны ня мелі беларускай візы, хоць, выляцеўшы, як і ўсе іншыя балёны, са Швайцарыі, прызямляцца на беларускай тэрыторыі яны ня зьбіраліся. Выманьне грошай за візу было таксама асуджанае Дзяржаўным Дэпартамантам ЗША як акт ня годны цывілізаванай дзяржавы.

Беларускі бок прызнаў толькі частхава віну ў састрэленьні балёну, схаваўшыся за фармалістыку: арганізатары міжнародных балённых спаборніцтваў, быццам-бы, не паведамілі Менску афіцыйна аб палёце. Арганізатары-ж цьвердзяць, што паведамленьне ў Менск было выслана і ўзгоднена. Мала таго, польскі міністар абароны заявіў 16 верасьня, што Польшча паведаміла Беларусі аб балёнах, якія будуць ляцець над беларускай тэрыторыяй.

Дадатковае апраўданьне, якое выставіў сабе беларускі бок, гэта беспасьпяховыя спробы паветраных сілаў Беларусі на працягу больш як дзьвюх гадзін скантактавацца з экіпажам балёну і папераджальныя стрэлы, на якія ня было ніякага адказу ад амэрыканцаў. І толькі, калі балён апынуўся над тэрыторыяй ваеннай базы, ён быў састрэлены.

Гэты трагічны выпадак уздымае шэраг пытаньняў. Ці адкажа на іх прызначаная прэзыдэнтам Беларусі расьсьледвальная камісія?

Гэтак, прыкладам, важна ведаць, ці было ўцягнутае ў пастанову страляць па амэрыканскім балёне расейскае камандаваньне стратэгічных войскаў у Беларусі. Бо ня выключана, што ваенная база, над якой быў зьбіты балён, становіць частку стратэгічнай абароны СНД, якая падпарадкаваная маскоўскаму начальству. Можа, памінуўшы адпаведныя беларускія інстанцыі, туды было пасланае сваім часам і атрыманае са Швайцарыі паведамленьне аб заплянаваных міжнародных спаборніцтвах. Ведама-ж, прыкладам, што сваім часам, калі здарылася ў Чарнобылі атамная аварыя, у беларускім друку доўгі час нельга было публікаваць дадзеных пра чарнобыльскую бяду без дазволу маскоўскага цэнтру. Цяпер, праўда, няма ўжо Савецкага Саюзу, але ў галіне стратэгічнае абароны Беларусь засталася залежнай ад Масквы гэтулькі-ж, колькі была й раней.

Ваенныя кіраўніцтва Расеі, як ведама, востра супрацівіцца ідэі пашырэньня НАТО на іншыя дзяржавы Ўсходняй Эўропы. Намаганьнямі Масквы, пры актыўным судзеяньні ёй з боку прэзыдэнта Лукашэнкі, расейская абаронная лінія была замацаваная сёлета яшчэ больш на беларуска-польскай граніцы. Цяжка даць веры, каб на працягу больш як дзьвюх гадзін, калі рабіліся спробы паразумецца з амэрыканскімі балянiстамі, ваенная камандаваньне Беларусі не рабіла спробы скантактавацца з Масквою. А калі так, дык хто тады даваў загад страляць па амэрыканцах — Менск ці Масква? Калі Масква, дык ці ведаў пра гэта Менск? Адсюль і іншае пытаньне: хто нясе матар'яльную і маральную адказнасьць за страляньне па бездапаможным няўзброеным балёне?

Прадстаўнік Белага Дому Майк МакКэры выказаў меркаваньне, што састрэленьне балёну выглядае больш на разьлік, чымся на памылку. Калі гэта запраўды разьлік, і разьлік расейскага ваеннага камандаваньня, дык праведзены ён у жыцьцё коштам Беларусі, цаною псыхалягічнага закабальваньня беларусаў, якім, як і рэшце сьвету, імпэрская ваеншчына дэманструе, што Расея трымае пільную варту, і не на сваёй тэрыторыі, а на заходняй мяжы суседняй дзяржвы.

Тымчасам як патрыёты гэтай дзяржавы лятуцяць аб свабодзе і дэмакратыі ды мірным сужыцьці з усімі іншымі людзьмі сьвету, у тым ліку з удзельнікамі міжнародных балённых спаборніцтваў.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ПРОСЬБА ПАМАГЧЫ БАРАНІЦЬ ДЭМАКРАТЫЮ

*Ніжэй зьмяшчаем поўны тэкст звароту кіраўніцтва дэмакратычнай апазыцыі ў парляманце Беларусі да палітычнага кіраўніцтва Злучаных Штатаў і Расеі з просьбай аб падтрымцы ў абароне дэмакратыі, наступ на якую вядзе аўтакратычны прэзыдэнт РБ Аляксандар Лукашэнка.*

Прэзыдэнту Злучаных Штатаў
Білу Клінтану

Членам Кангрэсу ЗША

Прэзыдэнту Расейскай Фэдэрацыі
Барысу Ельцыну

Дэпутатам Дзяржаўнай Думы
Расейскай Фэдэрацыі

Зьвяртаемся да вас у сувязі з пагрозай для дэмакратыі ў Рэспубліцы Беларусь. Парушаюцца правы чалавека, абмежаваная свабода слова, сходаў, мітынгаў. Сыстэматычна парушаюцца Канстытуцыя і законы краіны. Найбольш паказальна гэта выявілася 12 красавіка сёлета, калі ў залю парляманту на загад Прэзыдэнта Лукашэнкі было ўведзенае войска і пабітыя дэпутаты дэмакратычнае апазыцыі. 21 жніўня арыштаваныя лідэры рабочага руху. У той-жа дзень без выстаўленьня абвінавачаньня быў схоплены прадстаўнікамі ўладаў аўтар дакладу аб карупцыі ў адміністрацыі Прэзыдэнта, дэпутат парляманту Сяргей Антончык. Тры дні Антончыка гвалтоўна трымалі ў ізаляцыі на тэрыторыі аддзелаў Нутраных войскаў, і ні дэпутаты, ні ягоная сям'я ня мелі зьвестак аб ягоным месцазнаходжаньні. Да сёньняшняга дня няведамае месцазнаходжаньне лідэра Свабоднага прафсаюзу Генадзя Быкава і іншых актывістаў рабочага руху, затрыманых 21 жніўня.

Паводле слоў Першага намесьніка Генэральнага Пракурора, Прэзыдэнт Лукашэнка падпісаў указ аб зьняцьці дэпутацкай недатыкальнасьці. Гэты ўказ супярэчыць Канстытуцыі і Законам краіны. Кіраўніцтва пракуратуры заявіла, што ў сваіх дзеяньнях у дачыненьні да дэпутатаў апазыцыі будзе кіравацца не Канстытуцыяй і Законамі, а ўказамі Прэзыдэнта.

Узьнікла рэальная пагроза расправы ня толькі над лідэрамі дэмакратычнай апазыцыі, але і над усімі тымі грамадзянамі Беларусі, якія выказваюць нязгоду з праводжанай Прэзыдэнтам палітыкай.

**Зянон Пазьняк,**
*Старшыня дэмакратычнай апазыцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі*

**Сяргей Навумчык**
*каардынатар дэмакратычнай апазыцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі*

**Валянцін Голубеў**
*каардынатар дэмакратычнай апазыцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі*

Менск, 23 жніўня 1995 году

## БЭЛЬГІЙСКАЯ ГАЗЭТА ПРА ЗАБАСТОЎКУ Ў БЕЛАРУСІ

Адна з набольшых бэльгійскіх францускамоўных газэтаў "La Libre Belgique" (23.08.95) у артыкуле свайго маскоўскага карэспандэнта Брыса Туманава падала пра здушэньне беларускім урадам забастоўкі працаўнікоў менскага мэтро. «Мова і мэтады рэжыму, — піша газэта, — паказваюць ягоную выразную настальгію па савецкім мінулым».

Карэспандэнт піша пра паліцыйныя мэтады здушэньня забастоўкі і пра злоўжываньне ўрадам зманапалізаваных сродкаў масавай інфармацыі ў абвінавачваньні забастоўшчыкаў, старым савецкім звычаем, што яны, быццам-бы, знаходзяцца «на ўтрыманьні амэрыканскіх і польскіх прафсаюзаў». Газэта піша, што прэзыдэнт Лукашэнка ня здольны сёньня выканаць свае сацыяльныя абяцаньні ў эканоміцы, якая ўсё яшчэ абцяжаная заганамі з савецкага часу. Менская забастоўка, паводле маскоўскага карэспандэнта, «гэта толькі сымптом нацыянальнага маштабам сацыяльнага канфлікту, які пагражае ўзмоцніць відавочную ўжо тэндэнцыю рэжыму карыстацца мэтадамі прымусу». **Я.Ж.**

## КАНФРАНТАЦЫЯ ПАРЛЯМЯНТУ І ПРЭЗЫДЭНТА

Вярхоўны Савет Беларусі на сэсіі 7 верасьня 1995 г. прыняў папраўку да закону «Аб выбарах у мясцовыя Саветы». Паводле папраўкі выбары лічацца важнымі, калі ў іх возьме ўдзел 25 працэнтаў выбаршчыкаў (дасюль патрэбныя былі 50 працэнтаў, каб выбары маглі быць важнымі). За папраўку прагаласавала 164 дэпутаты.

Але пастановай гэтай не задаволены прэзыдэнт Лукашэнка. Кіраўнік ягонай адміністрацыі Леанід Сініцын заявіў на сэсіі аб тым, што, на думку прэзыдэнта, сэсія сабралася патое, каб займацца палітыкай, а не заканадаўствам. Словы гэтыя, аднак, ВС накіраваў назад пад адрасам Лукашэнкі, бо прэзыдэнт забараніў свайму міністру фінансаў даваць справаздачу перад парлямантам, як гэта прадбачыцца законам. У заяве, прынятай Вярхоўным Саветам таго-ж самага дня, сказана, што «апошнім часам... Прэзыдэнт Беларусі і падначаленыя яму кіраўнікі выканаўчай улады штучна завайстраюць супрацiў Вярхоўнаму Савету». Вярхоўны Савет абвінаваціў прэзыдэнта ў ігнараваньні асноўных законаў краіны. «Гісторыя сьветчыць, — кажацца ў заяве ВС, — што непавага да Канстытуцыі і законаў вядзе да трагічных вынікаў».

*(Паводле менскай незалежнай інфармацыйнай службы ММС, 9.09.95).*

## ПРАТЭСТЫ СУПРАЦЬ ВАЕНШЧЫНЫ Ў БЕЛАРУСІ

Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне і іншыя беларуска-амэрыканскія арганізацыі, а таксама паасобныя амэрыканскія грамадзяне беларускага паходжаньня зарэагавалі масава на састрэленьне над тэрыторыяй Беларусі амэрыканскага балёну, які браў удзел у міжнародных спаборніцтвах. У Белы Дом і Дзяржаўны Дэпартамант ЗША былі высланыя лісты пратэсту супраць ваеншчыны ў Беларусі і спачуваньня сем'ям забітых двух амэрыканскіх пілотаў балёну. Прадстаўнік Дзяржаўнага Дэпартаманту сказаў, што як толькі стала ведама пра састрэленьне балёну, тэлефонныя лініі Дэпартаманту былі ўсе занятыя званкамі ад беларускіх амэрыканцаў з асуджэньнем гэтага акту.

## БЕЛАРУСКА-РАСЕЙСКАЯ ФЭДЭРАЦЫЯ?

Паводле менскіх неафіцыйных крыніцаў, сустрэча ў Маскве 19 верасьня прэзыдэнта РБ Лукашэнкі і расейскага прэм'ера Чарнамырдзіна і далейшае падарожжа Лукашэнкі ў Сочы, дзе ён спатыкаўся з прэзыдэнтам Расеі Ельцыным, былі зьвязаны з рыхтаваньнем пагадненьня аб беларуска-расейскай фэдэрацыі. З колаў-жа беларускага прэзыдэнта даваліся тлумачэньні, што ў Маскве й Сочы Лукашэнка абмяркоўваў пытаньне расейскіх крэдытаў Беларусі.

Калі ў Маскве ды ў Сочы і гаварылася аб беларуска-расейскай фэдэрацыі, дык ідэя гэтая не знайшла падтрыманьня ў Кіеве, дзе Лукашэнка сустрэўся 24 верасьня з украінскім прэзыдэнтам Леанідам Кучмам. Як падало агенцтва ІТАР-ТАСС, Лукашэнка і Кучма пагадзіліся, што Беларусі, Украіне і Расеі няма патрэбы ствараць новыя структуры ды што супрацоўніцтва паміж трыма дзяржавамі павінна ўзмацняцца праз аднаўленьне эканамічных сувязяў, якія існавалі ў савецкім пэрыядзе.

Супраціўляюцца палітычнаму саюзу Беларусі з Расеяй і шмат якія беларускія заканадаўцы. Старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі М. Грыб на адкрыцьці цяперашняй сэсіі ВС сказаў: «Я асабіста не падзяляю выказваньні, якія гучаць у апошні час аб палітычным аб'яднаньні, у першую чаргу Беларусі з Расіяй і Украінай, у новы саюз на падставе фэдэрацыі, канфэдэрацыі ці чаго-небудзь іншага. Для гэтага як мінімум патрэбна ня толькі згода Расійскай Фэдэрацыі і Украіны, але і роўныя ўмовы для аб'яднаньня. Гэтага я пакуль што не знаходжу».

## ЦІ НАВЕДАЕ ПРЭЗЫДЭНТ КЛІНТАН БЕЛАРУСЬ?

Як падало агенцтва Ройтэра 18 верасьня (гл. «Н.Ё. Таймс» 19.09.95), прэзыдэнт Злучаных Штатаў Біл Клінтан можа быць удзельнікам сустрэчы лідэраў Вялікай Сямёркі ў Маскве, якая плянуецца на вясну наступнага году. На сустрэчы будуць абмяркоўвацца пытаньні атамнае энэргетыкі і бясьпекі ядзернае зброі. Прадстаўнік Белага Дому сказаў, што сустрэча можа адбыцца ў красавіку. «Узважваецца красавіцкая дата, – сказаў ён, — у межах дзесяці дзён ад угодкаў чарнобыльскай аварыі». Дзесятыя ўгодкі пажару на Чарнобыльскай АЭС споўняцца 26 красавіка 1996 году.

Як ведама, Беларусь пацярпела ад чарнобыльскай аварыі найбольш: 70 працэнтаў ядзерных ападкаў асела на беларускай тэрыторыі. У сувязі з гэтым трэба прапанаваць Беламу Дому, каб Прэзыдэнт Клінтан, калі паедзе ў Маскву, улучыў у свой маршрут таксама й Беларусь — можа якраз чарнобыльскую зону, жыхары якое і да сёньня найбольш цярпяць ад радыяцыі.

Было-б вельмі пажадана, каб беларускія арганізацыі і прыватныя асобы зварачаліся да Белага Дому з прапановамі Прэзыдэнту Клінтану ўлічыць магчымасьць наведаньня Беларусі ў часе свайго падарожжа ў Маскву. Добра было-б, калі-б падобныя лісты-запросіны (індывідуальныя ці калектыўныя) прыслалі ў Белы Дом і жыхары чарнобыльскай зоны.

## АМЭРЫКАНСКАЯ ГАЗЭТА ПРА БЕЛАРУСЬ

Газэта "Los Angeles Times", адна з найбольшых у ЗША, апублікавала ў нядзельным выпуску за 17 верасьня 1995 году артыкул пра Беларусь свайго карэспандэнта Рычарда Будро (Boudreaux) пад заг. «Лідэр піхае Беларусь назад да Расеі». Ілюстраваны фатаграфіяй прэзыдэнта Лукашэнкі, артыкул даволі дэтальна апісвае, які адмоўны ўплыў зрабіў прыход да ўлады Лукашэнкі на працэс адраджэньня беларускае мовы і станаўленьня дзяржаўнасьці Беларусі.

## БЕЛАРУСЬ ВАЧЫМА ЧУЖАЗЕМКІ

На паліцы ў Англіі падкладзена вельмі цікавая англамоўная кніжка "Between East and West. Across the Borderlands of Europe" (*Паміж Усходам і Захадам. Цераз прыгранічныя палосы Эўропы*). Кніжку напісала Анна Аплбаўм. Муж у яе паляк, і яна працуе заступнікам галоўнага рэдактара ангельскага часапісу «Спэктэйтор». Прадзед сп-ні Аплбаўм эміграваў у мінулым стагодзьдзі з Кобрына ў Злучаныя Штаты, дзе нарадзілася і сама аўтарка. Вучылася яна ў амэрыканскіх і ангельскіх школах, ведае расейскую і польскую мовы.

У сваёй кніжцы яна апісвае падарожжа да Калінінградзкай вобласьці, і далей — па Летуве, Беларусі, Украіне і Малдове. Піша пра жыцьцё людзей, іхныя настроі, палітычныя і эканамічныя справы.

На Беларусь прыехала яна зь Летувы, наведала Радунь. Адтуль паехала ў Германішкі, Беняконі, Бальцяны, Наваградак, Менск, Брэст, Кобрын. Аўтарка апісвае гэтыя мясцовасьці, перадае гутаркі з рознымі людзьмі: беларусамі, палякамі, гэбрэямі.

У Германішках спаткала каталіцкага ксяндза з Польшчы, а. Анджэя, які хацеў ехаць на місіянерскую працу ў Карэю. Трапіў на Беларусь, дзе кожная навернутая на каталіцызм асоба аўтаматычна наварочваецца на польскасьць. Айцец Анджэй кожны дзень вучыць дзьве клясы польскай мовы. Напісаныя па-польску імёны ў касьцельных архівах — гэта довад для місіянера а. Анджэя, што Германішкі заўсёды былі польскімі: "Zawsze Polska" (заўсёды Польшча).

Прыхаджане а. Анджэя таксама гавораць, што тут (у Германішках) Польшча, а не Беларусь. А ў касьцёле арганіст грае гімн "Boże coś Polskę..." (Божа, што Польшчу).

Вельмі цікава апісвае аўтарка Адама Міцкевіча, польскага паэта, родам з Наваградчыны. Ня толькі палякі, але і летувісы і беларусы ўважаюць яго сваім паэтам. Гэбрэі таксама зацікаўленыя паходжаньнем А. Міцкевіча. Крытычна апісвае яна музэй Міцкевіча ў Наваградку. Пасьля адной акадэміі ў музэі, прысьвечанай творчасьці паэта, польская актрыса з Варшавы, якая чытала ягонага «Пана Тадэвуша» і іншае, дзякавала мясцовай аўдыторыі за тое, што яны «бароняць польскую тэрыторыю ад беларускага наступу». Варта тут зазначыць, што на гэтай акадэміі было ўсяго... каля 20 асобаў.

Гід музэю ў Наваградку мяняе сваю нацыянальнасьць у залежнасьці ад абставін: калісьці лічыла сябе савецкай, цяпер лічыць сябе расейкай, марыць быць полькай, ходзіць у польскі каталіцкі касьцёл. А ў міжчасе зьвяраецца, што мясцовыя палякі ненавідзяць другіх людзей: ненавідзяць беларусаў, ненавідзяць расейцаў. Цікава, каго яны любяць?

У Берасьці наведала аўтарка крэпасьць. Апісаньне крытычнае. У горадзе многа польскіх гандляроў. Беларусы шукаюць сваякоў і блізкіх у Польшчы з думкай, каб туды паехаць.

Аўтарка ня была ўсхвалёвана Менскам. Не спадабаліся ёй жылыя кварталы, старадаўныя трамваі, нячыстае паветра, газы з самаходаў, фабрыкаў, камінoў, забалочаныя дворы. Спаткала яна ў Менску цікавых, інтэлігентных людзей, пра якіх добра выказваецца. Прыхільна адзываецца аб Віталю Зайко, які цікавіцца гэбраістыкай.

Калі ход аб Беларусі, дык паводле аўтаркі тут адсутнічаюць кніжкі па гісторыі, слоўнікі, настаўнікі моваў, нацыянальныя традыцыі. Сумляецца яна ў беларускім сувэрэнітэце.

Назовы некаторых беларускіх гарадоў і вёсак і г.д. аўтарка чамусьці дае ў польскай транскрыпцыі. Гэта тым больш дзіўна, што кніжка напісана па-ангельску.

Зь некаторымі выказваньнямі аўтаркі цяжка пагадзіцца. Напрыклад, калі яна піша, што заходнія правінцыі Расеі — польскамоўныя. На маю думку, аўтарка дыспрапарцыянальна шмат аддае ўвагі палякам на Беларусі, якіх налічваецца толькі чатыры працэнты ад усяго жыхарства.

Калі чытаеш гэтую кніжку, дык паўстае ўражаньне, што мясцовыя беларускія палякі ці апалячаныя беларусы-каталікі ўпарта не прызнаюць рэчаіснасьці — факту, што яны жывуць на Беларусі, а ня ў Польшчы. Шмат у гэтым віны прыбылых з Польшчы ксяндзоў-місіянераў. Як прыклад — кс. Анджэй у Германішках.

Добра было-б, каб беларусы на Беларусі азнаёміліся з кніжкай Анны Аплбаўм «Паміж Усходам і Захадам» і даведаліся, што чужынцы пішуць аб нашых людзях, аб нашай Бацькаўшчыне.

*Англія*

**М. Швэдзюк**

## КАРДЫНАЛ СЬВЁНТАК У ЗША

Як падала газэта "Polish American Journal" за 12 жніўня 1995, у Злучаных Штатах пабываў кардынал Казімеж Сьвёнтак, Арцыбіскуп Менскі і Магілёўскі і Апостальскі Адміністратар у Беларусі. Разам зь іншымі ерархамі Каталіцкай Царквы ў рэспубліках былога СССР ён узяў удзел у Першай міжнароднай канфэрэнцыі па дапамозе Каталіцкай Царкве ў былым Савецкім Саюзе. Канфэрэнцыя адбылася 8-10 чэрвеня ў амэрыканскім горадзе Энгельвудзе, штат Каларада.

Кардынал Сьвёнтак у сваім выступленьні на канфэрэнцыі гаварыў пра «напружанае змаганьне каталіцкага жыхарства ў Беларусі, каб захаваць сваю веру». 81-гадовы кардынал, піша газэта, «выявіў моцнае адчуваньне польскага патрыятызму, а таксама глыбокую рэлігійную веру і маральны аўтарытэт, здабыты за два пэрыяды выгнаньня ў Сібіры». Сваім красамоўствам кардынал нагадаў карэспандэнту газэты польскага езуіта-аратара Пятра Скаргу, які змагаўся з рэфармацыяй у Польска-Літоўскай Рэчы Паспалітай.

Кардынал Сьвёнтак з пахвалой выказаўся аб працы мясцовых ксяндзоў, «шмат хто зь якіх прыбыў з Польшчы ў адказ на ягоны заклік памагчы адбудаваць і ўзмоцніць Каталіцкую Царку ў Беларусі». Дапамога гэткая вельмі патрэбная, сказаў кардынал, у аблічы дзейнасьці пратэстанцкіх місіянераў, якія прыбываюць са Швэцыі. «Яны добра падрыхтаваныя, — сказаў ён, — карыстаюцца мясцовай мовай і маюць моцнае фінансавае падтрыманьне ад сваіх пратэстанцкіх прыходаў на бацькаўшчыне».

З газэты даведваемся, што Кардынал Сьвёнтак наведаў «шэраг паляніййных грамадаў у Злучаных Штатах». Ня чуваць было, аднак, каб галава Каталіцкай Царквы ў Беларусі сустракаўся ў Амэрыцы з каталікамі беларускага паходжаньня, якіх ці мала жыве ў Злучаных Штатах.

### СПЫНЕНЬНЕ ПЕРАКЛАДУ ЕВАНГЕЛЬЛЯ

**Да нас дайшлі весткі, што пасьля сёлетняга рэфэрэндуму, якім расейскай мове быў нададзены афіцыйны статус, Кардынал Сьвёнтак загадаў падпарадкаванай яму камісіі спыніць пераклад Сьвятога Евангельля на беларускую мову. Калі так, дык гэта будзе выглядаць на ціхую змову русыфікатара — Лукашэнкі і палянізатара — Сьвёнтака.**

### *ЗАКЛІК ПАДТРЫМАЦЬ БЕЛАРУСКАЕ ПІСЬМЕНСТВА Ў ПОЛЬШЧЫ*

Выдаваны ў Парыжы польскі часапіс «Культура» (№7-8, 1995) зьмясьціў ліст Вацлава Левандоўскага з заклікам падтрымаць беларускае пісьменства ў Польшчы ў сувязі з намаганьнямі прэзыдэнта Лукашэнкі абежаваць беларускую мову і культуру. Мэтай такой падтрымкі было-б, «каб у Польшчы мог паўстаць пругкі цэнтар культурнага беларускага жыцьця». Дапамога такая, піша аўтар заклiку, павінна давацца без аніякіх перадумоваў, «каб беларусы на ўспрыймалі яе за спробу ўплываць на зьмест іхнага пісаньня». Сп. Левандоўскі ўважае, што палякі «маральна забавязаныя падтрымаць беларускае пісьменства, бо быў непахвальны час, калі (у міжваенным пэрыядзе) польская дзяржава ігнаравала нацыянальнае пачуцьцё і моўную апрычонасьць шматлікіх жыхароў тагачасных паўночна-ўсходніх крэсаў. Гэта ў выніку папхнула шмат каго з беларусаў пад уплыў савецкай агітацыі і камуністычнай ідэялёгіі».

На думку аўтара заклiку, «свабодны росквіт беларускага пісьменства ў Польшчы мог-бы спрасьціць будучыя дачыненьні» паміж беларускім і польскім народамі.

### «БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД», т. 2, сш. 1 (Жнівень 1995)

На 162 старонках нумару:

Марына Сакалова – Да мэтадалёгіі аналізу грамадзка-палітычных рухаў; Людміла Дучыц — Балты і славяне на тэрыторыі Беларусі ў пачатку II тыс. н. э.; Аляксандар Смалянчук — Гістарычная сьвядомасьць і ідэялёгія палякаў Беларусі і Літвы пачатку XX ст.; Зачараваны Вялікім Княствам (размова з праф. Ю. Бардахам); Ёган Гейзынга — Нацыяналізм у сярэднявеччы; Аўгуст Нікчэ — Праблематыка гістарычнай антрапалёгіі; Франц Кушаль — Спробы арганізацыі Беларускага Войска пры нямецкай акупацыі Беларусі; рэцэнзіі; хроніка; абвесткі.

Нумар падрыхтавалі: Юрась Бохан, Ірэна Ганецкая, Андрэй Радаман, Валеры Пазднякоў, Генадзь Сагановіч (рэдактар), Генадзь Семянчук.

Часапіс можна набыць з рэдакцыі, цана: 10 дал. (зь перасылкай).

Адрас рэдакцыі: вул. Фр. Скарыны, 1, 220072 Менск. Тэл.: (0172) 39-54-21, факс: (0172) 21-49-72.

«Беларускі Гістарычны Агляд» патрабуе грашовай падамогі. Гэты нумар выйшаў дзякуючы ахвяраваньням фундатараў: Беларускага Фонду Сораса, Алы Рамана, Вітаўта і Зоры Кіпеляў, Янкі Запрудніка.

### ЗВАЖАЙ» № 4 (80)

У жнівеньскім нумары вэтэранскага квартальніка (8 ст.): Пратэст у Лёндане (перад пасольствам РБ); перадрук з «Народнай газэты» артыкулу В. Дашука «Я хачу, каб лёс беларусаў ня быў падобны на лёс вымершага народу майя» (гл. «Беларус» № 426); Бахančык — Перамога агульная. Войны й вэтэраны — розныя»; Хто пасьля вайны, у 1946-47 гадох, спажываў гуманітарную помач ЗША для Беларусі? (перадрук артыкулу Евгения Сульги з «Советской Белоруссии»): Мат'ю Фішэр — Каму сяньня «на Русі жить хорошо»; Візыт Ул. Арлова ў ЗША.

## ДА БІЯГРАФІІ АРХІЕПІСКАПА БАПЦ ВАСІЛЯ

**(З дакладу сп. Міхася Тулейкі на памінальнай акадэміі ў Гайленд-Парку, Н.-Дж., 17.09. 1995)**

Дастойны айцец Васіль, дарагія Спадарыні й Спадары!

Сёлета ў чырвені споўнілася 25 год ад канчыны сьветлай памяці Ўладыкі Архіепіскапа Васіля. Сёньня мы памаліліся Богу ў нашай Сьвятой Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве імя Жыровіцкай Божай Маці за душу пакойнага Ўладыкі, а цяпер сабраліся тут, каб успомніць ягоную дзейнасьць і ўшанаваць памяць Ўладыкі Васіля, якую мы носім у сэрцах нашых.

25 год — гэта вялікі адразак часу, у якім жыве тое, што было адноўлена вернікамі ў эміграцыі, гэта — Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, на чале якой былі да сьмерці Архіепіскапы Сергій і Васіль.

25-ю гадавіну ад сьмерці Ўладыкі Васіля мы адзначаем сёлета ў памяць ягонай дзейнасьці з намі ў Амэрыцы, дзе ён жыў і служыў Богу й Бацькаўшчыне ад году 1951-га да дня сваё раптоўнай сьмерці 9 чырвеня 1970 году.

Ушаноўваючы памяць Архіепіскапа Васіля насамперш трэба ўспомніць ягоную біяграфію. Уладзімір Тамашчык, пазьнейшы Архіепіскап Васіль, нарадзіўся 15 красавіка 1900 г. у вёсцы Вялікія Азяраны Горадзенскага павету ў сям'і Данілы й Марыі Тамашчыкаў, якія мелі вялікую гаспадарку. Пачатковую школу Ўладзімір скончыў у Вялікіх Азяранах, а пасьля вучыўся ў Горадні. У часе першай сусьветнай вайны сям'я Тамашчыкаў была эвакуаваная ўглыб Расеі — у Омск на Сібіры. Там у 1920 годзе Ўладзімір скончыў сярэднюю школу, а ў 1921 годзе з маткай і роднымі, але без бацькі, які памёр у Омску, вярнуўся на бацькаўшчыну, на новую гаспадарку ў Дублянах. Цяжка давялося працаваць усёй сям'і на зруйнаванай вайной гаспадарцы.

Пад узьдзеяньнем беларускай прэсы, якую даставаў зь Вільні, і прамоваў беларускіх паслоў у польскім сойме Ўладзімір Тамашчык улучыўся ў беларускі рух і захапіўся ім усёй душой.

У 1927 годзе быў арыштаваны

*(Працяг на 6-й ст.)*

# У БЕЛАРУСІ

Наканавана мне яшчэ раз наведаць Беларусь. Мела шчасьце й гонар быць на Другім міжнародным кангрэсе беларусістаў 16-18 травеня 1995 году ў Менску. Прыехала ў Менск 12-га травеня, два дні перад выбарамі ў Вярхоўны Савет Беларусі. Мела з сабой назначэньне ад Згуртаваньня Беларусаў Канады быць ад БНФ назіральнікам у часе выбараў. Перад выбарамі на тэлебачыні падавалі па-расейску аднабаковую, жахліва-хлусьлівую, варожую ўсяму беларускаму, прапаганду. Беларускіх дзеячоў — змагароў за адраджэньне й незалежнасьць Беларусі — мяшалі з балотам. Ужо сам факт, што тэлебачаньне было выключна ў руках аднаго боку, гаварыла аб недэмакратычнасьці выбараў.

**У Лагойшчыне.** Назіральнікам давялося мне быць у двух выбарчых участках у Лагойшчыне. У Лагойску назіральніка ад БНФ камуністы-прарасейцы выставілі за дзьверы, бо ён паказваў на нерэгулярнасьці ў выбарах. А нерэгулярнасьцяў было там удоваль. Прыходзяць людзі й іх запісваюць у лісту выбаршчыкаў. Выпаўняць бюлетэні ў кабінку заходзяць па некалькі асоб. І выбарчая камісія кажа, што гэта ў іх можна. Людзі скамунізаваныя, абдураныя, а то й застрашаныя.

У Лагойшчыне др. Аляксандр Шут, кандыдат ў Вярхоўны савет ад БНФ, завёз нас у вёску Міхалкавічы, дзе радзіўся, жыў і настаўнічаў у школе № 28 сьв. пам. Язэп Гладкі. У 50-х гадох Гладкі быў настаўнікам і дырэктарам пачаткавай школы ў беларускім ДП лягеры ў Ватэнштэце, у Нямеччыне. Расказваў др. Шут, што Уладзімер Палупанаў, адукаваны чалавек, якога лёс кідаў па Францыі й Альжыры, вярнуўшыся ў Беларусь, дзе яму як БНФ-аўцу «ня было ходу», прыехаў у Міхалкавічы «адраджаць вёску». Стаўся загадчыкам мясцовага клюбу й між іншага заініцыяваў устанаўленьне на доме Язэпа Гладкага мэмарыяльнай дошкі. Мясцовыя ўлады не падтрымалі ягонае ініцыятывы й ні ў чым не дапамаглі. Таму мэмарыяльную дошку зрабілі драўлянай. На ёй такі напіс:

«У гэтым доме нарадзіліся й жылі
Язэп Гладкі (1890-1972)
Казімір Гладкі (1893-1937)»

Афіцыйнае адкрыцьцё мэмарыяльнай дошкі адбылося ва ўрачыстых абставінах з актыўным удзелам вяскоўцаў, які памятаюць і шануюць свайго настаўніка Язэпа й Казіміра Гладкіх.

Лагойшчына, надзвычай маляўнічы, прыгожы край, але дарогі — а было гэта пасьля дажджу — страшныя. І хаты ў вёсцы панурыя. У доме, дзе жыў Язэп Гладкі, цяпер жывуць ягоныя сваякі. Холадна было, а дзеці бегаюць па хаце й па двары босыя й амаль голыя. Нядбальства й бядота. Др. Шут зазначае, што гэта яшчэ не найгорай. Яму як лекару прыходзіцца езьдзіць да хворых, — кажа: «Прыязджаю зімою ў мароз у хату, шыба выбіта й заклеена плястыкай. А тады-ж гэта можна было лёгка паправіць, дастаць танна кусок шкла й зашкліць. Дзіця хворае. Пытаю, чаму шыбу ня ўставіць? А бацька адказвае: «Гэта справа калгасу, а не мая!» У хаце холад, дзіця хворае, а ён чакае, каб калгас уставіў яму шыбу».

Др. Шут запрасіў нас да сябе на абед. У Лагойску, дзе ён жыве, высачэзны шэры будынкак апартамэнтаў. Ягоная кватэра на 5-тым паверсе. У доме няма ліфту. Падымаемся, сапучы, з аднаго паверху на другі, а доктар нас пацяшае: гэта добра для здароўя! «А як было зацягнуць фартапіян на 5-ты паверх?! А мусіў, кажа, бо жонка настаўніца музыкі, а дачка вучыцца музыкі.» У ягонай кватэры прыгожа, утульна. На сьценах мастацкія абразы, у адным куце вялікі бел-чырвона-белы сьцяг. На нашую просьбу спадарыня Шут і дачка бавілі нас музыкай і песьняй. А на прыгожых тварах гэтых культурных людзей сум і нейкае прыгнечаньне. Др. Шут расказвае пра тую ноч, як амонаўцы Лукашэнкі напалі й білі дэпутатаў Вярхоўнага Савету Беларусі, якія ў пратэст зьмены сымболікі Беларусі, увядзеньня расейскай, як другой, дзяржаўнай мовы ды далучэньня Беларусі да Расеі абвесьцілі галадоўку. У Беларусі разбуральную работу праводзяць камуністы, прарасейцы й перадусім расейскія імпэрыялісты. І яны кіруюць Лукашэнкам, і ў выбрах вядуць на павадку нясьведамы народ.

**У Менску на Другім міжнародным кангрэсе беларусістаў**

15-га травеня ўвечары на прэсканфэрэнцыі Другога міжнароднага кангрэсу беларусістаў цікавым было выступленьне др. Аляксандра Баршчэўскага, дырэктара беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту. Чатыры гады таму назад, сказаў ён, на Першым міжнародным кангрэсе беларусістаў мы сьвяткавалі радасныя нарадзіны, а сяньня — паховіны. (Быў-жа гэта дзень пасьля ганебнага рэфэрэндуму). Спачатку на беларускай філялёгіі студыявалі беларусы зь Беласточчыны. Цяпер студэнтаў болей і яны пераважна палякі. З таго часу, як Беларусь сталася незалежнай, у Польшчы, як і ў сьвеце зьявілася зацікаўленьне Беларусяй — незалежнай дзяржавай. Цяпер гэтае зацікаўленьне зыйдзе йзноў да нуля. Праф. Баршчэўскі прапанаваў, каб наступная міжнародная канфэрэнцыя беларусістаў адбывалася ў Варшаве ці на Беласточчыне.

Рэакцыяй на выступленьне праф. Баршчэўскага была рэпліка: «Ну, можа не паховіны, а скажам, цяжкая хвароба». Пасьля прэсканфэрэнцыі, як і пасьля кожнага працоўнага дня кангрэсу, адбываўся канцэрт беларускага фальклёру.

Стаім на прыстанку й чакаем на трамвай да гатэлю, дзе на тры дні затрымаліся прыежджыя ўдзельнікі кангрэсу. У групе быў адзін незнаёмы мне спадар. Кажу да яго, як «да пана брата»: «А вас я не ведаю». Др. Вітаўт Кіпель кажа: «Гэтак-ж Уладзімер Конан!» Я чуць ня прысела. Уладзімер Конан, філязафічна-патрыятычныя й лірычна-навуковыя артыкулы якога палоняць мазгі й душы чытачоў, тут вось стаіць! А такі ён сьціплы, і толькі ў вачох, як і ў ягоных артыкулах, амаль ня сьвятасьць.

Гатэль, дзе нас памясьцілі арганізатары — Міжнародная асацыяцыя беларусістаў (МАБ) — вельмі добры, прыгожыя, выгадныя пакоі. Празь вялікае вакно кожнай раніцай разам з сонцам вітае мяне на далёкім нейкім будынку Менску бел-чырвона-белы сьцяг.

Кангрэс пачаўся пленарным паседжаньнем. Удзельнікі, а іх каля 350, — наша эліта ня толькі інтэлектуальная, але й нацыянальная. Тут навукоўцы, прафэсары, лекары, артысты, пісьменьнікі, паэты, уніяцкія сьвятары. Зь Японіі — прафэсар і ягоны вучань, навукоўцы з Англіі, Беласточчыны, Польшчы, Нямеччыны, Югаславіі, Украіны, Баўгарыі, Латвіі, Эстоніі, Расеі, ды зь іншых краін, былі з далёкага Мары, з усіх куткоў Беларусі ды з-за акіяну — ЗША й Канады.

Адным зь першых было выступленьне др. Радзіма Гарэцкага, віцэпрэзыдэнта Акадэміі Навук Беларусі. Выступленьне ягонае было, як заўсёды, разумнае й патрыятычнае.

На сцэне была прыгожая эмблема — выява Еўфрасіньні Полацкай. Нехта з залі голасна пытае: дзе Пагоня!? Казалі, што гэта быў Барадулін. Нехта іншы пытаўся: дзе бел-чырвона-белы сьцяг!? Тут трэба паведаміць, што праф. Мальдзіс, старшыня МАБ і Скарынаўскага цэнтру, казаў, што перад кангрэсам некаторыя людзі рабілі ўсё, каб кангрэс не адбыўся. Нейкі начальнік пытаўся, як ён сьмеў рабіць кангрэс у часе «Тыдня расейскае культуры»?! Праф. Мальдзіс адказаў, што дата кангрэсу была вызначана год таму назад, а не цяпер.

Кожны дзень зраніцы й папаўдні адбываліся чатыры сэсіі, якія складаліся з колькінаццаці дакладаў у кожнай. На першы дзень кангрэсу, пасьля паўдня, у часе дакладаў прышоў у залю адзін з арганізатараў і паведаміў, што нехта з каманды прэзыдэнта перад сваім домам парваў бел-чырвона-белы сьцяг і павесіў савецкі.

Кожная сэсія была прысьвечана пэўнай тэме. Была сэсія прысьвечана праблеме беларускай мэдычнай тэрміналёгіі. Беларускія мэдыкі працуюць над узбагачэньнем нацыянальнай навукі і культуры, сярод іх др. Тамара Антановіч, якая працуе над слоўнікам беларускае мэдычнае тэрміналёгіі, і ў гэтай справе ад некаторага ўжо часу ліставалася із старшынёй, таксама мэдыкам, Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады.

У апошні дзень кангрэсу ўвечары ў беларускім тэатры «Вольная сцэна» адбылася прэм'ера спэктаклю Шэкспіра «Рычард». Перад пастаноўкай на сцэну выйшаў мастацкі кіраўнік тэатру, які ў сваім уступным слове сказаў, што пастаноўка мелася ісьці перад «няшчасьцем», але фактычна добра, што яна ідзе цяпер, бо яна адпавядае сяньняшняй нашай сытуацыі. На заканчэньне пастаноўкі пад бурныя, і добра заслужаныя артыстамі, воплескі, на сцэну запрошаны быў аўтар перакладу й сцэнічнай рэдакцыі «Рычарда» драматург Аляксей Дудараў. Артыстыя й драматург былі абдораны апрача апладысмэнтаў масай кветак. Вечар закончыўся горачай патрыятычнай прамовай мастацкага кіраўніка тэатру «Вольная Сцэна».

**У Скарынаўскім цэнтры і ў «Бацькаўшчыне».** На другі дзень адведала Скарынаўскі цэнтр і «Бацькаўшчыну» на Койданаўскай вуліцы, якая цяпер завецца Рэвалюцыйнай.

Скарынаўскі цэнтр, дырэктар якога праф. Адам Мальдзіс, мае ўжо не малыя зборы архіўных матарыялаў і вельмі густоўна ўладжаныя выставы.

У тым-жа доме на іншым паверсе знаходзіцца гаспода Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына». Спадарыня Ганна Сурмач, старшыня Вялікай Рады «Бацькаўшчыны», карыстаючы з нагоды, што шмат сяброў «Бацькаўшчыны» зьехалася на кангрэс беларусістаў, зрабіла зь імі зборку. Як ведама, нядаўна на зьезьдзе сяброў «Бацькаўшчыны» быў зьменены яе статут, паводле якога сябры-арганізацыі «Бацькаўшчыны» твораць цяпер рэгіянальныя адзінкі-аддзелы «Бацькаўшчыны» й праводзяць у іх працу самастойна, незалежна ад цэнтру. Гэтак Згуртаваньне Беларусаў Канады цяпер праўна зьяўляецца рэгіянальным аддзелам «Бацькаўшчыны». Прыкладам, «Брэсцкая аб'яднаная рэгіянальная арганізацыя 'Бацькаўшчына' заплянавала правядзеньне 21-22 верасьня, 1995 г. *восенскай сэсіі* 3-яе Міжнароднае навукова-практычнае канфэрэнцыі «Нацыянальная адукацыя: гісторыя, сучаснасьць, пэрспэктывы».

Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» мае розныя, уключна зь фінансавымі, цяжкасьці. Кожны месяц за кватэру павінна плаціць колькі мільёнаў беларускіх рублёў. І ўлады не глядзяць на арганізацыю прыхільным вокам.

**Напрамак Пружаны.** Наступнага дня едзем самаходам у Пружаны. Па дарозе, на прапанову сп. Віктара, пад'ехалі да Мірскага замку, якому сёлета спаўняецца 600 год. Вялікая дарожная табліца абвяшчае, што ўяжджаем ў Берасьцейскую вобласьць. У грудзёх сэрца закалацілася. Уздоўж шашы Берасьце – Менск дарога доўгімі адрэзкамі высаджана кустамі бэзу, які цяпер цьвіў. Прыгаство! Здавалася, што ўехалі ў Эўропу. І паселішчы, будынкі пaўз дарогі болей дагледжаныя, усё неяк прыгажэй выглядае. Бальшавікі яшчэ не пасьпелі зруйнаваць, як зруйнавалі яны Богам абдораную прыгажосьцяй Лагойшчыну, як зруйнавалі яны Беларусь і беларускі народ.

А Пружаны? Пра іх мы ўжо расказвалі. Там буслы гнёзды часта ўюць і бусьлянят гадуюць. Там адвечныя дрэвы на могліцах расказваюць пра продкаў і сьветлую памяць пра іх сьцерагуць.

**У Менск вярнулася** дзень перад адлётам у Канаду. У кватэру да сп-ні Рагнеды Грышкевіч-Аляхновіч, дзе я затрымалася, прыйшлі з букецікамі канваліі пісьменьніца Ліда Савік і паэтка Валя Коўтун. Прыйшлі яны са справай. Валя Коўтун старшыня, а Ліда Савік сябра ўравы «Ўсебеларускага жаночнага фонду Еўфрасіньні Полацкай». Асноўныя мэты дзейнасьці гэтае арганізацыі: «Садзейнічаньне разьвіццю нацыянальнай культуры, навукі, хрысьціянскіх традыцыяў дзеля духоўнага адраджэньня беларускага народу». Кіраўніцтва гэтае арганізацыі імкнецца ператварыць арганізацыю ў міжнародную, уцягнуць у яе сяброўства й дзейнасьць беларусак замежжа. У выніку прадуктыўных дыскусіяў я мела гонар стацца сяброўкай гэтай паважанай арганізацыі.

**Паварот у Канаду.** Калі прылятала раней у Менск, на лётнішчы нічога асаблівага ня кідалася ў вочы, але гэтым разам заўважыла масу самалётаў БЕЛАВІЯ, і на кожным зь іх прыгожа вымаляваны бел-чырвона-белы сьцяг. Ой, як шмат працы й грошай будзе патрабаваць Лукашэнка, калі захоча зганьбіць гэтыя сьцягі. Цяпер і ў Беларусі людзі напэўна болей заўважаюць і з большым пачуцьцём сьвятасьці глядзяць на белчырвона-белыя сьцягі.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

# ПАДАРОЖЖА Ў БЕЛАРУСЬ 1995

**Некаторыя не паехалі. Чаму?**

Ехаць ці ня ехаць? Гэткае пытаньне ставілі перад сабой увесну сёлета шмат якія суродзічы-беларусы ў Амэрыцы, узважаючы «за» і «супраць» падарожжа ў Беларусь. Змушалі да такога роздуму-ваганьня паліцыйны гвалт над галадаючымі парлямэнтарыямі ў красавіку ды вынікі травеньскага рэфэрэндуму: непашана роднае мовы, адмова ад нацыянальнае сымболікі, і, як соль на рану, прызнаньне чужое рэвалюцыі сваім сьвятам. Усё гэта аніяк не паддавала ахвоты да падарожжа. Наадварот: кліўлендцы, прыкладам, якія на пачатку году гарэлі жаданьнем ехаць, астылі і адмовіліся ад свайго намеру. Дый з саўтрывэрскае групы, якую арганізаваў Юрка Наумчык, колькі чалавек адпала. Тым ня менш, калі 2-га ліпеня аматары падарожжа зьехаліся ў Саўт-Рывэр на пляц Беларускага Грамадзкага Цэнтру, адкуль адыходзіў наняты аўтобус на аэрапорт імя Кенэды, дык усіх налічылася 34 асобы.

Бальшыня ехала на два тыдні: тыдзень супольнае паездкі аўтобусам па гістарычных мясьцінах Беларусі (маршрут арганізаваў сп. Яўген Лецка), а тыдзень — хто куды, пераважна да сваякоў. Мы з Надзяй, як маладажоны, паехалі на пяць тыдняў: трэба-ж было ня толькі па гістарычных мясьцінах праехацца, але й усім сваякам прадставіцца, дый адпачыць пасьля апошніх клапатлівых месяцаў.

У кожнага з падарожнікаў па дзьвэ-тры біткам набітыя валізкі, ёмісты ручны багаж. На плячах, у руках фотаапараты, відэакамэры. На пляцы мітусьлівая гамана: зьехаліся людзі, што даўно ня бачыліся, дык шмат каму трэба павітацца, рпаспытацца, здымак разам зрабіць...

Юрка Наумчык, Міхась Сенька, Боб Цупрык і іншыя завіхаюцца ля адмысловага багажа: дзевяць вялікіх скрынак дарагіх мэдыкамэнтаў для беларускіх шпіталёў з ахвярамі чарнобыльскай радыяцыі.



*У Юркі Наумчыка галава трашчыць перад ад'ездам з Саўт-Рывэру на аэрапорт: каб-жа пра ўсё падумаць!*

Падбрушша аўтобусу аказалася замалым, каб зьмясьціць увесь навезены груз, частка валізак завалілі ўвесь зад аўтобуснага салону.

На аэрапорце мітусьня ўжо з нэрвамі: кожны адказны за свай багаж, валізкі пераляшаліся, страх, каб штонебудзь не прапала, каб чаго-небудзь не забыцца. Усе клопаты і праблемы на Юркаву галаву: некаторых білетаў няма, іншыя зь няправільнымі датамі вяртаньня, чарнобыльскі багаж патрабуе асобнага афармленьня. Бедны Юрка ўшчэнт забегаўся. Але ён і віду не падае, што яму ўсяго гэтага зашмат. Відаць, жончына спачуваньне дапамагае яму...



*Юрка Наумчык з караваем, якім гасьцінныя случчакі прывіталі сваіх заакіянскіх гасьцей.*

Нарэшце ўлякаваліся на самалёт ірляндскай авіяліініі Эр Лінгус. Нехта пацікавіўся быў, калі стаялі ў чарзе на здаваньне багажа, ці наш лайнэр будзе Бэінг 747. Не, не 747, а 737. Але якая розьніца? — самалёт прасторны, чысты, абслуга ветлівая, пітво добрае, яда смачная. Хочаш — глядзі тэлеперадачу, хочаш — слухай падбор клясычнай музыкі, ня хочаш — прабуй паспаць. Ноч па дарозе зь Нью-Ёрку ў Ірляндыю (дзе перасадка на Менск) кароткая: ляцім насустрач сонцу.

**Шанон: добра, але каб было яшчэ лепш**

У Шаноне чакаем гадзін чатыры. Пачакальня прасторная, сьветлая, крэслы маккія, выгодныя. Тут-жа кафэ-бар, магазыны сувэніраў, харчоў, вопраткі, лікёраў і іншага. Прыбіральні чысьценькія, за два даляры нават душ можна ўзяць. Здавалася-б, усё як найлепш. Аж не! Падыходзіць да нас лэйды з анкетаю на дошкапісцы і просіць згоды адказаць ёй на пытаньні: Адкуль і куды ваш маршрут? Ці вас ўсё задавальняе тут? Ці выгадна разьмешчаная ў пачакальні інфармацыя? Ці ветлівая ў аэрапорце абслуга? Што, на вашу думку, можна было-б палепшыць тут? Пацікавіліся і мы з Надзяй, ці даўно праводзяцца гэткія апытаньні ды па якім прынцыпе падбіраюцца апытаныя асобы. Даведваемся, што апытаньні ўведзеныя нядаўна, апытваюцца-ж падарожнікі розных маршрутаў. Падумалася: ці дачакаюцца калінебудзь пасажыры менскага аэрапорту такіх апытаньняў, асабліва што да ветлівасьці абслугі...

Лайнэр ТУ-134, на які мы селі ў Шаноне, выглядаў знаёма: бел-чырвонабелага сьцягу на хвасьце самалёта яшчэ ня ўсьпелі перамаляваць, анонсы ў часе лёту таксама гучэлі па-беларуску і па-ангельску. Затое музыка, якою запоўнены час палёту — суцэльная расейшчына, якая рэжа вуха, бадай, толькі заакіянскім беларусам...

Аэрапорт Менск-2 паўстае рэзкім кантрастам да Шанону: месца выдачы багажа і запаўняньня ўездных анкетаў цёмнапанурае, падлога ліпкая (штосьці было разьлілося і ня выцерлі), пэрсанал абыякавы да патрэбаў і запытаў неазнаёмленых наведнікаў. Цяжка айчынным беларусам пазбыцца абложнага мэнталітэту (siege mentality), цяпер падмацаванага яшчэ ваяўнічай лукашэнкаўшчынай.

Затое па другім баку заставы, прайшоўшы даволі памяркоўную мытню, — вітаньні, абдымкі, пацалункі, кветкі, запросіны. З чужых падарункаў і пасылак, якімі нагрузіліся падарожнікі перад выездам з дому, што можна, аддаецца тут-жа, каб аблегчыць ношу ды зьняць адказнасьць за чужыя каштоўнасьці.

Шмат каму падарункі перадаваліся ў форме даляраў. Балазе, што беларускі бок не абмяжоўвае колькасьці замежнай валюты, якую можна ўвезьці ў краіну. Нейлепшы-ж падарунак для шмат каго са сваякоў ці знаёмых на Бацькаўшчыне пры цяперашнім эканамічным спадзе гэта — грошы, бо на рынку, прынамся па большых гарадох, тавараў ладна пабольшала, а з грашыма вельмі скупа.

Па дарозе з аэрапорту ў Менск (кілямэтраў 40 язды) сп. Лецка тлумачыць, што, перанaчаваўшы, заўтра зраньня выпраўляемся аўтобусам у падарожжа па гістарычных мясьцінах Беларусі ў суправаджэньні гіда і артыстаў.

**Гатэль «Беларусь» без валюты**

Затрымаліся ў гатэлі «Беларусь», як госьці «Бацькаўшчыны». Гатэль з рэстаранам, крамкай замежных прысмакаў і гарэлкі, сувэнірнай крамкай, газэтным кіёскам, канторай валютнага абмену. У Беларусі цяпер нічога не прадаецца за валюту, а толькі за беларускія рублі. Абменных пунктаў поўна, хоць сям-там сяды тады, бывае, нехапае рублёў. Ня было іх, прыкладам, у гатэлі «Беларусь», калі нашы падарожнікі разагналіся былі купіць сабе сёе-тое ў гатэльных крамках.

«Беларусь» зь ейнымі 20 паверхамі стаіць напоўпустая. У гатэльным рэстаране, дзе мы з Надзяй сьнедалі, а часамі й вячэралі (усіх месцаў пад 90), ніколі ня было больш за чатыры-восем асобаў. Турызму ў рэспубліцы, бадай, ніякага ня відаць. Калі бачыш дзе рэдкага чужынца, дык, як правіла, нейкага бізнэсмэна. У гасьцініцы «Беларусь» зь імі сустракаешся больш, бо тут месьцяцца таксама замежныя пасольства і консуляты. Гэтым тлумачыцца і наяўнасьць у фае вайсковае варты, якая пільна сочыць наведнікаў і часамі «тармозіць» (выраз, выпадкова пачуты на парозе гасьцініцы) уваход непажаданаму мясцоваму элемэнту.

**Аўтобусам у Слуцак**

Сп. Лецка абсталяваў нам транспарт з аэрапорту, начлег у гасьцініцы і чатырохдзённае падарожжа аўтобусам на маршруце Слуцак-Тураў-Давід-Гарадок-Пінск-Слонім-Жыровічы-Гародня-Наваградак-Мір-Нясьвіж-Менск. У дарогу з намі паехалі ў ролі гіда Васіль Ліцьвінка, выдатны знавец народнае песьнятворчасьці, які паясьняў шмат чаго па дарозе; гарманіст-віртуоз Васіль Купрыяненка, чый баян заліваў аўтобус мэлёдыямі, дапамагаў сьпяваць; і Мікола Котаў, разьвясёлы танцаўнік зь невычарпальнай энэргіяй і здольнасьцяй «граць на ўсім», пачынаючы ад саломінкі або кавалачка цэляфанавай паперы. Сумаваць у дарозе ня было калі.

**Янка Запруднік**

*(Працяг у наступным нумары)*

---

**Рыгор Барадулін**

***З цыклю «Дурноты»:***

### АБ МОВАХ

*Наіўна,*
*Што Банапарт выпадковы*
*Ня можа назьдзекавацца*
*З матчынай мовы.*
*Уцяміць даўно ўжо*
*Няцямкім пара:*
*Сабака брэша на мове гаспадара.*

### ПАРКЕТ І ЭТЫКЕТ

*Ня думае аб этыкеце*
*Бугай калгасны на паркеце.*
*Не галава,*
*А рык і рогі*
*Яго вядуць да перамогі.*

### НЕ ЗЬЯДУЦЬ

*Абгарадзіўся край,*
*Хоць стаўся голым,*
*Зь міліцыянтаў шчыльным*
*частаколам.*
*Жартуе люд,*
*На гэты гледзячы рэдуць:*
*Ня выдасьць Бог,*
*Адміністранцы не зьядуць!*

(«Лім», 11.08.95)

Шчыра вітаем нашага сталага супрацоўніка

**сп. МІХАСЯ СЕНЬКУ і сп-ню ВАЛЯНЦІНУ ПАЛЮХОВІЧ**

з сужэнствам, у якое яны ўвайшлі 11 верасьня сёлета, ды жадаем добрага здароўя і шмат шчасьця ў супольным жыцьці.

*Рэдкалегія «Беларуса».*

*ВІНШУЕМ!*



*У травені сёлета адбылося вясельле сп. Рыгора Хрэноўскага са сп-чна. Сыльвіяй Рутай Вазалінскай. Шчыра вітаем маладажонаў і віншуем іхных бацькоў. На здымку (справа): Анатоль і Крыстына Хрэноўскія, малады з маладой, Ірэна і Гітыс Джон Вазалінскія.*

## МЕНСКІ ТЭАТР «ДЗЕ Я?» Ў ЛЁНДАНЕ

Айцец Аляксандар Надсан, бывшы колькі тыдняў таму ў Менску, даведаўся ад сп-ні А. Атрошчанка, што ў жніўні сёлета незалежны тэатр драмы «Дзе я?» паедзе на міжнародны фэстываль мастацтваў у Эдынбург. Айцец Аляксандар зьвярнуўся да мастацкага кіраўніка тэатру сп. М. Трухана з запросінамі, каб тэатр па дарозе ў Эдынбург затрымаўся на пару дзён у Лёндане. Усё было ўзгоднена.

І вось у нядзелю 6 жніўня 17 асобаў артыстаў былі прывітаныя сакратаром ЗБВБ др. І. Гурло на аэрапорце Гатвік, адкуль нанятым аўтобусам прыбылі ў Скарынаўскі цэнтар. Там гасьцей віталі а. Надсан, старшыня ЗБВБ А. Зданковіч, ягоныя заступнікі і сябры ўправы.

На наступны дзень артысты зьведалі Лёндан, а ўвечары, пры ідэальным надвор'і, запрошаная галоўнай управай ЗБВБ публіка заняла сядзячыя месцы ў агародзе. Апрача беларускай грамадзкасьці было даволі многа прыяцеляў.

Кароткімі цёплымі словамі прывітаў прысутных сп. Трухан.

Тут, у агародзе і выконвалася камэдыя Францішка Аляхновіча «Дзед і баба». Здольныя артысты і насьмяшылі і нацешылі гледачоў, ці аднаму зь якіх сьлёзы радасьці набеглі на вочы.

Па заканчэньні камэдыі салістка Тацьцяна Мархель выканала некалькі беларускіх народных песень, слухаючы якія было радасна ўсьведамляць, што ня ўсё яшчэ з народнай скарбніцы адыйшло ў нябыт. Моц апладысмэнтаў заакцэнтавала патрэбу адраджэньня ўсяго таго добрага, продкамі нашымі беражонага.

Драма «Цені і страхі», як і вышэй успомненая камэдыя, належыць драматургу Аляхновічу. Пастаноўка драмы адбылася ў залі пры Скарынінскай бібліятэцы. У драме адлюстраваная поўная роспачы сытуацыя дзьвюх сем'яў у 1919 годзе. Былі чутны галасы пра падабенства палажэньня ў сучаснай Беларусі.

На прыняцьці пасьля паказу гаварылі пра вялікае значэньне падобных сустрэчаў а. Надсан, сп. Трухан і старшыня ЗБВБ Зданковіч, які ўспомніў сьв. пам. Янку Міхалюка, шматгадовага старшыню ЗБВБ. З удзячнасьцяй была сустрэта на вечары сп-ня А. Атрошчанка, спонсар дадзенага тэатру.

Раніцой 8 жніўня адпраўлялі мы дарагіх гасьцей на чыгуначную станцыю, адкуль беларускія мастакі паехалі ў Эдынбург.

**А.З.**

*З жыцьця ў Нью-Джэрзі*

## ПАМЯЦІ АРХІЕПІСКАПА ВАСІЛЯ І М. АБРАМЧЫКА

Прыхаджане царквы Божай Маці Жыровіцкай БАПЦ у Гайленд-Парку і запрошаныя госьці адзначылі 17 верасьня 25-годзьдзе сьмерці Архіепіскапа БАПЦ Васіля і старшыні Рады БНР Міколы Абрамчыка. Пасьля паніхіды, у прыцаркоўнай залі адбылася памінальная акадэмія, якую адчыніў настаяцель прыходу а. Васіль Андрэюк. Даклад пра жыцьцёвы шлях Уладыкі Васіля прачытаў сп. Міхась Тулейка, адзначыўшы вялікія заслугі Архіепіскапа Васіля ў аднаўленьні і разбудове рэлігійнага жыцьця праваслаўных беларусаў на эміграцыі.

Сп. Васіль Русак у дакладзе пра дзейнасьць Старшыні Рады БНР Міколы Абрамчыка падкрэсьліў аўтарытэт, якім Прэзыдэнт Абрамчык карыстаўся ня толькі сярод суродзічаў, але й сярод эміграцыйных дзеячоў іншых народаў, і ягоную вядучую ролю ў ачольваньні г. зв. Парыжскага Блёку, у якім былі згуртаваныя лідэры дзевяцёх паняволеных народаў тагачаснага Савецкага Саюзу.

Прэзыдэнт Абрамчык трымаў шырокую лучнасьць з урадамі заходніх краінаў; здолеў выратаваць шмат беларускіх сем'яў ад прымусовае дэпартацыі з Даніі ў Савецкі Саюз; забясьпечыў дзесяткам беларускіх студэнтаў навучаньне ў Лювэнскім унівэрсытэце ў Бэльгіі.

На ўрачыстасьці выступіў з дэклямацыяй вершу Алеся Салаўя студэнт Мідлсэкскага каледжу Ільля Вострыкаў, які прыбыў нядаўна зь Беларусі на навуку ў ЗША.

Успамінамі пра Архіепіскапа Васіля і М. Амбрамчыка падзяліліся сп-ня Марыя Ханяўка і сп. Антон Шукелайць, а сп. Юрка Васілеўскі расказаў пра жыцьцёвыя сьляды маладога М. Абрамчыка (лісты з Прагі), зь якімі яму давялося азнаёміцца ў беларускіх архівах. Васілеўскі даў высокую ацэнку маштабнаму разуменьню Абрамчыкам гістарычнага шляху Беларусі.

*З жыцьця ў Пэрце (Зах. Аўстралія)*

## КУПАЛАЎСКІЯ ЎГОДКІ

113-я ўгодкі нараджэньня Песьняра Беларусі, Янкі Купалы, былі ўшанаваны паўгадзіннай беларускай радыёпраграмай на радыястанцыі 6ЕВА (FM) 5-га ліпеня а гадзіне 4-й папаўдні. У праграме быў зроблены кароткі агляд ягонага жыцьця і дзейнасьці. Усе песьні, выкарыстаныя ў праграме, былі на словы Купалы ў апрацаваньні беларускіх кампазытараў і выкананьні розных сьпевакоў.

У сыботу 8-га ліпеня гэтыя ўгодкі адзначыла і Беларускае Аб'еднаньне ў Заходняй Аўстраліі. Галоўнымі пунктамі сьвяткаваньня былі два вельмі цікавыя даклады: перш па-беларуску, а другі па-ангельску, які падрыхтавалі спадары Р.М. і старшыня аб'еднаньня Міхась Раецкі.

## ГАДАВЫ ЗЬЕЗД БАЎЗА

26-га жнівеня ў Беларускім народным доме адбыўся гадавы справаздачна-перавыбарчы зьезд Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі (БАЎЗА).

Справаздачу зь дзейнасьці даў старшыня ўступаючай управы Міхась Раецкі малодшы, а пра грашовы стан гаварыў скарбнік Алекс Мароз. З справаздачаў выявілася, што ўправа выявілася з сваіх абавязкаў вельмі добра. Сп-ня М. Мароз запрапанавала, каб уступаючая ўправа была перавыбраная на наступную кадэнцыю. Сп. Міхась Раецкі падтрымаў прапанову. У новую ўправу былі выбраныя: старшыня — Міхась Раецкі малодшы, заступнік старшыні — Міхась Ёлаб, сакратар/-скарбнік — Алекс Мароз, асыстэнт сакратару — Марылька Ёлаб, прадстаўнік прэсы — Марыя Мароз, вонкавыя сувязі — Міхась Раецкі старэйшы, інспэкцыя кніжак — Лінда Ёлаб.

Зьезд закончыўся пачастункам, які падрыхтавалі сяброўкі і ўспамінамі пра адыйшоўшых сяброў я сяброўак.

28.8.1995 г.

**Р.М.**

## М. ТАНК ДАПАМАГАЎ Н. АРСЕНЬНЕВАЙ

Максім Танк у сваім апублікаваным дзёньніку (гл. кнігу «Лісткі календара», Мн., 1970, ст. 123) пісаў пад датай 21 студзеня 1937 г.: «На пасяджэньні Беларускага навуковага таварыства, якое сабралася ў інжанера Трэпкі, я ўпяршыню сустрэўся з Н. Асеньневай. ... Я заўважыў, што сярод прысутных шмат было сватоў, якім хацелася, каб паміж намі завязалася нейкая творчая дружба. Няўжо яны ня бачаць, што мы — людзі рознага складу, розных поглядаў? Выпадкова сустрэліся, і ня ведаю, ці сустрэнемся больш калі. Дарогі нашы разыходзяцца ў процілеглых напрамках».

Гэтае Танкава выказваньне прыгадала сп-ня Арсеньнева, калі я патэлефанаваў ёй нядаўна, каб перадаць вестку пра сьмерць Максіма Танка. Арсеньнева (старэйшая за Танка амаль на дзесяць год), якая жыве ў гор. Рочэстар у штаце Нью-Ёрк у ЗША, успрыняла вестку з сумам, і прыгадала пры гэтым наступныя факты.

Калі ў 1940 годзе яна з двума сынамі была на ссылцы ў Казахстане (муж Арсеньневай Францішак Кушаль, афіцэр польскай арміі, знаходзіўся тады ў савецкім лягеры ваеннапалонных у Старабельску), Максім Танк разам з іншымі пісьменьнікамі ў Менску, у тым ліку найбольш аўтарытэтным сярод іх Янкам Купалам, рабілі захады перад адпаведнымі ўладамі аб ейным звароце з казахстанскае ссылкі ў Беларусь. А[...] Танка Арсеньнева дастала на выгнаньні два лісты. У першым лісьце Танк паведамляў, што робіцца захады аб ейным вызваленьні ды што ў справу ўключыўся «той, хто зь ёй доўга гаварыў у Саюзе пісьменьнікаў» (Я. Купала). Купала, дарэчы, знаў Ф. Кушаля яшчэ з 1920 году, калі Кушаль працаваў у Менску ў Беларускай вайсковай камісіі, саюзнай з польскай арміяй Пілсудзкага, і куды наведваўся Купала.

У другім лісьце М. Танк паведамляў Арсеньневай, што справа ейнага звароту на Беларусь на добрай дарозе і што тыдняў за два-тры яны пабачацца. І запраўды, увесну 1941 году Натальля Кушаль (Арсеньнева) з двума сынамі вярнулася з Казахстану ў Беласток, дзе была тады Танкава жонка Люба, у якое неўзабаве нарадзіўся сын.

**Я.З**

## ПАДЗЯКА

Рэдакцыя «Беларуса» шчыра дзякуе за газэтныя выразкі і іншыя прэсавыя матар'ялы, атрыманыя ад спсп.: А. Сільвановіча, Ю. Арцюха, К. Вераб'я, М. Швэдзюка, В. Карпенкі, Ул. Арлова, Я. Лецкі, Б. Даніловіча, Б. Руцька.

# ЛУКАШЭНКАЎЦЫ ЗМАГАЮЦЦА З СБМ

*(Працяг; пачатак у № 426)*

Возьмем у рукі вольную трыбуну пісьменьнікаў Расеі «Литературную газету» за 31 траўня 1995 г. (№ 22) і пачытаем ліст пісьменьніцы Вольгі Чайкоўскай да вялікага расейскага пісьменьніка Салжаніцына аб падзеях у Чачні. Вось што яна апісвае ў гэтым лісьце:

«Пасьля налёту расійскіх самалётаў ад доміка засталіся адны сьцены. Журналісты, увайшоўшы туды, пабачылі на падлозе чатыры акрываўленныя скруткі, разгарнулі іх — там зьнявечаныя цельцы хлопчыкаў пяцішасьці гадоў.

«Адзін пасьпеў уцячы, — расказваў сьведка падзей, — хацеў схавацца ў рове, але самалёт, разьвярнуўшыся, стрэльнуў у яго ракетаю. Дзіцячае цельца раскідала па кустах, сабраць яго не ўдалося. Матка яго загінула і ніхто не даведаецца, ці бачыла яна, як уцякаў яе хлопчык.»

Вось так, таварыш Бадулін. Такога аб СБМ вы не напішаце, як-бы ні хацелі. «Каб разьвярнуць самалёт, не пашкадаваць ракеты не на баевіка, не на дарослага змагара за незалежнасьць Чачні са зброяю ў руках, а на дзіця, для гэтага трэба было быць выхаванцам усесаюзнай піянерскай арганізацыі і ленінскага камсамолу.

Дык дзе бесчалавечнасьць ня высмактаная з пальца, а сапраўдная — нялюдзкае азлабленьне? І гэта ня домыслы і не фальсыфікацыі, якія выкрысталі вы, «таварыш» Бадулін, у сваім артыкуле аб СБМ — быццам-бы дзесяці-дванаццацігадовых хлопчыкаў СБМ вучылі ўжо страляць, а больш дарослых — разьбіраць і карыстацца кулямётам. Факты аб «гераічнай» дзейнасьці былых выхаванцаў камсамолу апублікаваныя і нікім не аспрэчваюцца, бо ёсьць сьведкі гэтых злачынных дзеяньняў.

А вось яшчэ адно сьведчаньне з гэтага ліста да вялікага пісьменьніка.

«І, напасьледак, партрэт на фоне развалін Грознага. Батальённы разьведвальнік, яму васемнаццаць (былы ленінскі піянер — М.Б.). Чачэнцу, якога ён забіў, крыху больш. Вайна, яны стралялі адзін у аднаго. Галоўнае ў тым прадстаўленьні, якое ён арганізаваў крыху пазьней. Стралец наш не паленаваўся, выцягнуў труп чачэнца на падворак, пабег, паклікаў фатакарэспандэнта, пахваставўся: «Гэта я яго заваліў». А пасьля паставіў нагу на сьпіну мёртваму — і засьмяяўся (усьміхнуўся).» Ну чым не фашыст? Мо бальшавіцкая прапаганда, якая толькі так паказвала эсэсаўцаў, навучыла гэтага маладога салдата, што так павінны сябе паводзіць сапраўдныя мужчыны, сапраўдныя юбэрмэншы.

Таму пісьменьніца Вольга Чайкоўская піша Салжаніцыну далей: «Усе сыгналы грамадзянскае бяды павінны былі засыгналіць пры гэтай усьмешцы. ВЯЛІКАЯ НЕБЯСПЕКА! Няўжо-ж вы яе ня бачыце? Каму, як ня вам (Салжаніцыну — М.Б.) ведаць: акрамя фізычнай сьмерці ёсьць яшчэ і другая форма пагібелі — разбурэньне душы. Чачня стала месцам трэніровак, дзе маладых хлапчукоў трэніруюць, як аўчарак, напампоўваюць усё усьведамленьне ненавісьцю. Ашалеўшыя ад беспакаранасьці, ад неймавернай улады над бездапаможнымі, «лізнуўшыя» крыві, ужо хлябнуўшыя яе, ахмялеўшыя ад яе — самі яны якімі сталі?

Гэта вокліч пісьменьніка-гуманіста. Таварыш Бадулін на такі погляд ня здольны, бо ў яго камуністычныя шоры: хто ня з намі, той супраць нас; калі вораг не здаецца, яго зьнішчаюць. І ня важна, што вораг гэты — юнак, дзіця. Усёроўна вінаваты, бо не пайшоў у бой «за советскую Родину, за товарища Сталина». Вось чаму аб гуманістычных пытаньнях чачэнскай бойні, дзе за паўгода загінула расейскіх хлопчыкаў больш, чым за дзесяць гадоў каляніяльнай вайны ў Афганістане, «Советская Белоруссия» ня піша.

Помніцца, некалі, калі таварыш Павал Якубовіч ня быў яшчэ прэзыдэнцкім рэдактарам, а працаваў у сапраўды дэмакратычнай «Народнай газеце», ён не абыходзіў тэмаў з жыцьця Расеі, даючы нават разумныя камэнтары падзей ля Астанкіна і Белага дому ў Маскве падчас змаганьня Руцкога, Хасбулатава і Макашова супраць Ельцына і Грачова. Але-ж то было пад кіраўніцтвам сапраўднага дэмакрата Сярэдзіча, а цяпер ягоны кіраўнік — былы бальшавіцкі палітрук. І чалавек, здольны чалавек, ліжа боты ўладзе.

Аб Чачні і яе трагедыі зусім маўчыць, хаця лёс Чачні можа быць лёсам і Беларусі, бо Лукашэнка не аб эканамічнай інтэграцыі з Расіяю пытаў падчас рэфэрэндуму. Ужо празь месяц пасьля беларускага рэфэрэндуму кіраўнік адміністрацыі прэзыдэнта Ельцына, Леанід Філатаў, загаварыў аб тым, што няма сэнсу траціць час, трэба юрыдычна афармляць канфэдэрацыю Беларусі з Расеяй. Наша кіраўніцтва і ягоныя дарадцы бяз мыла лезуць у тую канфэдэрацыю, не хаваючы, што пасьля яе могуць быць больш блізкія адносіны — фэдэрацыя, у якой цяпер знаходзіцца Чачня і намагаецца выйсьці зь яе. Так што, калі нашыя нашчадкі захочуць вольна жыць і вызваліцца з абдымкаў «старэйшага брата» ў выглядзе канфэдэрацыі ці фэдэрацыі, то Менск і Барысаў, Брэст і Гародню чакае лёс Грознага і фатаграфіі малайца-казака з нагою на трупе «малодшага брата». Як у Чачні!

Думаюць аб гэтым тыя беларусы, якія маюць дзяцей і ўнукаў і галасавалі за інтэграцыю з Расеяй так, як прасіў аб гэтым прэзыдэнт? Каб беларусам, асабліва расейскамоўным, ня прыходзілі ў галаву падобныя думкі, параўнаньні падзей у Чачні з магчымымі на Беларусі, калі Расея нас праглыне, Якубовіч не дапускае на старонкі свае газэты ніякіх роздумаў і аналізаў аб падзеях у Чачні.

**М. Бублікаў**

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

## ДА БІЯГРАФІІ АРХ. ВАСІЛЯ

*(Заканчэньне з 3-й ст.)*

**У 1941 годзе інж. Тамашчык вярнуўся на бацькаўшчыну, адразу ў Дубляны на гаспадарку родзічаў, а пазьней пераехаў у Беласток, дзе ўлучыўся ў беларускую нацыянальную дзейнасьць, працуючы ў Беларускім Камітэце і ў рэдакцыі беларускае газэты «Новыя Дарогі». Дзякуючы добраму веданьню нямецкае мовы, яму ўдавалася ратаваць жыцьцё нявінных людзей у часе нямецкай акупацыі Беларусі.**

**Пасьля вайны інж. Тамашчык знайшоўся ў Мюнхэне, дзе я зь ім першы раз спаткаўся. Там хутка пасьля вайны арганізавалася беларуская моладзь пры УНРАўскім ўнівэрсытэце, заснавалася Беларускае Студэнцкае Задзіночаньне, зь якім Тамашчык цесна супрацоўнічаў у выдаваньні часапісу «Крывіцкі Сьветач». На УНРАўскім ўнівэрсытэце быў выкладчыкам аграноміі, а па лініі грамадзка нацыянальнай быў старшынём Цэнтральнага Беларускага Камітэту ў Нямеччыне.**

**Ў той час ужо былі беларускія арганізаваныя асяродкі ў Нямеччыне — у Рэгенсбургу, Ватэнштэце і іншых гарадох, дзе пачыналася грамадзкая рэлігійна-нацыянальная дзейнасьць эмігрантаў-Беларусаў, што не вярнуліся на бацькаўшчыну, зноў акупаваную бальшавікамі.**

**Епіскапат БАПЦ на чале з Архіепіскапам Бэнэдыктам, які таксама апынуўся ў эміграцыі, далучыўся да Расейскае Зарубежнае Царквы, спыняючы гэтым дзейнасьць БАПЦ, што была адноўлена ў Менску ў 1942 годзе. Гэта была драма для многіх беларускіх патрыётаў, у тым ліку і для Ўладзіміра Тамашчыка. У ягоным разуменьні пераход беларускага епіскапату да расейцаў быў нацыянальнай здрадай. Гэта і сталася зваротным мамэнтам у жыцьці Тамашчыка. Ён даў згоду прысьвяціць далейшае сваё жыцьцё Богу й свайму народу.**

**Ад гэтага мамэнту канчаецца прыгожая частка жыцьця сьвецкага чалавека, шчырага патрыёта, грамадзкага і палітычнага дзеяча, ды пачынаецца новы пэрыяд жыцьця — змарага за духовае вызваленьне свайго народу.**

**На просьбу беларускіх арганізацыяў і прыяцеляў-беларусаў інж. Уладзімір Тамашчык даў згоду стаць епіскапам, каб ураваць Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква аказала неабходную дапамогу Тамашчыку прайсьці падрыхтаваньне і ступені да высьвячэньня ў епіскапы. Акт хіратоніі выканалі Епіскапы УПА Царквы Платон, Сергій і Вечаслаў. Сьвяшчэнны Сынод УАП Царквы адпусьціў епіскапа Сергія для БАП Царквы. Такім чынам адбылося аднаўленьне БАПЦ ды ўтварэньне новага ейнага епіскапату.**

**Сьвяшчэнны Сабор БАПЦ назначыў Епіскапа Васіля адміністратарам БАПЦ на ЗША, Канаду й Эўропу, а галава БАПЦ Архіепіскап Сергій узяў пад сваю апеку беларусаў у Аўстраліі. Ужо пасьля хіратоніі Епіскап Васіль закончыў курсы ў Украінскай Багаслоўскай Акадэміі, атрымаўшы дыплём магістра багаслоўя 27 травеня 1951 году. Неўзабаве пасьля гэтага Ўладыка Васіль пераехаў у ЗША, пасяліўся ў Нью-Ёрку, дзе ўжо была парафія БАПЦ з настаяцелем а. Федарам Данілюком. На той час і нашая парафія Жыровіцкай Божай Маці ў Нью-Брансьвіку пачынала сваё існаваньне з настаяцелем Сьцяпанам Войтэнкам, а таксама парафія БАПЦ ў Кліўлендзе.**

**З прыездам Уладыкі Васіля ў Амэрыку рэлігійная дзейнасьць стала хутка разьвівацца, бо ў той час значная колькасьць беларусаў пераехала з Эўропы ў ЗША й Канаду. Стала наладжвацца грамадзка рэлігійнае жыцьцё. Першыя багаслужбы адбываліся ў памешканьнях, часова нанятых. Аднак пільная патрэба задзіночыла ўсіх для набыцьця ўласных царкоўных будынкаў. Вялікім дзейнікам ў гэтым кірунку была прысутнасьць Епіскапа Васіля, які не шкадаваў свае энэргіі ў наладжваньні нармальнага рэлігійнага жыцьця беларускай эміграцыі ў ЗША.**

**Не пакідаў Уладыка бяз увагі навуковае і грамадзкае жыцьцё. У 1951 годзе Архіепіскап Васіль быў старшынём Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Быў сталым сябрам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, на працягу шмат гадоў выступаў з малітвамі ў Сэнаце ЗША на ўгодкі 25-га Сакавіка.**

**У 1955 годзе Ўладыка Васіль пачаў выдаваць часапіс «Голас Царквы» з жаданьнем большага пашырэньня Хрыстовае веры і ўзмацненьня духа сярод эмігрантаў Божым Словам. У ім Уладыка зьмяшчаў калядныя й вялікодныя пасланьні, артыкулы з гісторыі БАПЦ, навуку веры Божай і хроніку з жыцьця й дзейнасьці парафіяў БАПЦ на эміграцыі. Гэтыя пасланьні і цяпер годныя вялікай нашай ўвагі, бо вера ў Бога астаецца той самай заўсёды.**

**Не малую ўвагу аддаваў Уладыка і жыцьцю беларускіх рэлігійных асяродкаў, куды ён прыяжджаў на сьвяты й нацыянальна-рэлігійныя ўрачыстасьці. З а. Федарам Данілюком й а. Сьцяпанам Войтэнкам Уладыка Васіль асьвяціў наш магільнік ў Іст-Брансьвіку, дзе ўсе яны спачылі навекі.**

**Міхась Тулейка**

## *БЕЛАРУСЬ: ЭКАНОМІКА*
### *Англамоўная інфармацыя*

У сэрыі выданьняў Арганізацыі для Эканамічнага Супрацоўніцтва і Разьвіцьця (Organization for Economic Cooperation and Development – OECD) з цэнтрам у Вашынгтоне (2001 L Street, N.W., Suite 700, Washington, D.C. 20036-4910) выйшлі дзьве кнігі, у якіх пішацца і пра Беларусь.

1. Short-Term Economic Statistics: Commonwealth of Independent States 1980-1993, September 1993, 176 p.($35.00)
2. Electricity in European Economies in Transition. June 1994. 260 p. ($70.00)

Тэл. для замаўленьня кнігаў: 1-800-456-6323.

**Увага! Увага!**

Асобы, якія дастаюць газэту «Беларус» ад сп. Браніслава Даніловіча, будуць яе атрымоўваць у далейшым ад сп. Сяргея Трыгубовіча. Да яго трэба будзе зьяртацца ў адміністрацыйных справах і выпісваць на ягонае прозьвішча чэкі з належнасьцяй за газэту і ахвяраваньнямі на яе. Адрас сп. Трыгубовіча наступны:

***Mr. S. Tryhubovich,***
*40 Deerfield Rd., Somerset, N.J. 08873*

Выказваем шчырую падзяку сп. Браніславу Даніловічу за шматгадовую, руплівую і самаахвярную працу ў пашыраньні газэты «Беларус» і прыдбоўваньні сродкаў на ейнае выданьне. Жадаем яму добрага здароўя і ўсякае памысьнасьці.

**Выдавецтва «Беларус»**

# СЬВ. ПАМ. ВЕРА РАЕЦКАЯ

У сераду 19-га ліпеня 1995 г. адыйшла ў лепшы сьвет жонка Міхася Раецкага Вера — маці сыноў Міхася і Антося, бабуля Алекса, Сымэнты і Сары. Нарадзілася сьвятой памяці Вера 18.8.1933 у былым Ленінградзе. У часе вайны разам з маткай Натальляй, сястрой Тоняй і братам Уладзімерам апынулася ў горадзе Любэку, дзе маці, сястра і брат працавалі на рыбнай фабрыцы, а Вера, ня гледзячы на свой дзіцячы век, была змушана даглядаць яшчэ меншых за сябе дзяцей.

Па заканчэньні вайны маці Веры выйшла замуж за Аляксея Кавалевіча, які даў сваё прозьвішча і для Веры. Старэйшая сястра Тоня і брат Уладзімер вярнуліся на Радзіму, а Вера з маці і айчымам 6.1.1950 г. прыбылі ў гор. Пэрт у Заходнюю Аўстралію. Дзесьці на пераломе 1942/53 гадоў яна пазнаёмілася зь Міхасем Раецкім і ў тым-жа годзе, 18 кастрычніка, адбыўся шлюб. Чатыры гады пазьней у іх нарадзіўся сын, якому Вера дала імя Міхась, а пяць гадоў яшчэ — другі сын — Антось. Як дбайлівая маці, яна выхавала сыноў у беларускім духу. І таму сёньня абодва гавораць па-беларуску, ведаюць свае традыцыі. Старэйшы сын Міхась зьяўляецца старшынём Беларускага Аб'яднаньня, сяброўкай якога была і Вера. Шмат памагала яна і мужу ў рыхтаваньні радыяпраграмаў, плянавала дапамагчы яму ў чытаньні скрыптаў, але, на вялікі жаль, на гэта не хапала часу. 24-га ліпеня адбыліся паховіны. Абрад пахаваньня выканаў а. Уладзімер, настаяцель прыходу Жыровіцкай Божай Маці ў Пэрце. Пахавана Вера на Беларускай сэкцыі Каракацкіх магілак. Ня гледзячы на дрэннае надвор'е, памаліцца за яе душу ў царкву прыйшло больш за сто людзей, якія пазьней прыехалі на могілкі. У асобе Веры сям'я Раецкіх страціла любую жонку і маці, Беларускае Аб'еднаньне — сяброўку, а людзі — вялікую прыяцельку.

Хай-жа пухам будзе ёй гасьцінная аўстралійская зямелька, і памяць аб ёй будзе між намі вечна.

**Р.М.**

## *ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ*

Паважаная Рэдакцыя!

У «Голасе Радзімы» № 27 за 20 ліпеня 1995 г. было зьмешчанае пісьмо чытача «ГР» О. Буткевіча, які жыве ў Бірмінгаме ў Англіі, пад заг. «Суайчыньнікі і соотечественники». Маё прозьвішча С. Будкевіч, я жыву ў гор. Ковэнтры ў Англіі, 18 міляў ад Бірмінгаму. Беларусы, якія жывуць тут у Англіі, пераважна ў раёне Бірмінгаму, пачалі тэлефанаваць мне і пытацца, ці я гэта пісьмо пісаў.

Мне асабіста, як і другім беларусам, што жывуць у раёне Бірмінгаму, О. Буткевіч ня ведамы. Калі ён існуе, нам было-б добра спаткацца зь ім і адзін аднаго лепш пазнаць. Жывём мы ў дэмакратычнай краіне Англіі. Кожны грамадзянін мае права бязь ніякага абмежаваньня выказваць свае пагляды.

Калі ласка, на балонках вашай газэты зьмясьцеце маю заяву:

«Я, Сыльвэстар Будкевіч, пражываючы ў Ковэнтры, Англія, пісьма ў 'Голас Радзімы' пад заг. 'Суайчыньнікі і соотечественники' ня пісаў і з поглядамі аўтара вышэй успомненага пісьма поўнасьцю не згаджаюся. Мне прыкра, што тут на эміграцыі між намі жывуць людзі, якія самыя сябе, беларускі народ і Беларусь так зьневажаюць».

З пашанай

**С. Будкевіч**

## НОВЫЯ ВЫДАНЬНІ

Зь менскага выдавецтва «Тэхналогія» можна набыць новавыдадзеныя кнігі:

1. *ДАПАМОЖНІК ДЛЯ ЖУРНАЛІСТАЎ ЦЭНТРАЛЬНАЙ І УСХОДНЯЙ ЕЎРОПЫ.* Рэдактар-укладальнік Малькальм Ф. Мэлет. 176 с. Цана: 12 дал. (цана ўсюды ўключае перасылку).
2. Лоўзі Джон. *ГІСТАРЫЧНЫЯ ЎВОДЗІНЫ Ў ФІЛАСОФІЮ НАВУКІ.* 328 с. Цана : 15 дал.
3. Брэтон Філіп, Пру Сэрж. *ВЫБУХ КАМУНІКАЦЫІ. НАРАДЖЭНЬНЕ НОВАЙ ІДЭАЛОГІІ.* 336 с. Цана: 15 дал.
4. Юрась Залоска. *ДЫЯЛОГІ З ВАСІЛЁМ БЫКАВЫМ.* 95 с. Цана: 10 дал.
5. Юрась Залоска. *ВЕРСІІ. Дзённік, дыялогі, эсэ.* 463 с., ілюстрацыі. Цана: 17 дал.

Першыя тры кнігі выйшлі ў сэрыі Беларускага Фонду Сораса «Адкрытае грамадзтва», чацьвертая — ў выд. «Мастацкая літаратура», пятая — у выд. «Тэхналогія».

Заказы пасылаць на адрас «Тэхналогіі» (дырэктар Вацлаў Багдановіч):

220007 Менск. вул. Магілеўская, 43. Тэл. факс: (0172) 21-77-40; тэл.: (0172) 653-73-83, 27-19-40.

### Абвестка

Сёлета летам Беларуска-Амэрыканскі Цэнтр ладзіў паездку па паўднёва-заходняй Беларусі. Быўшы ў Нясьвіжы, падарожнікі наведалі старынны каталіцкі фарны касьцёл імя Божага Цела. Айцец др. Гэнрык Акалатовіч, паказаўшы нам гэты старажытны і вельмі прыгожы касьцёл, зьвярнуўся да нас, каб дапамаглі ім купіць кампутар і прынтар. Сказаў, што ў парафіі знаходзіцца звыш 600 дзяцей, і іхнія бацькі патрабуюць, каб іх дзеці вывучалі Божыя навуку на беларускай мове, бо цяпер усё друкуецца на польскай мове.

Беларускі Грамадзкі Цэнтр згадзіўся ўзяць на сябе адказнасьць, каб сабраць грошы і выслаць ім так неабходныя рэчы для беларускага адраджэньня паміж каталікоў.

Усіх людзей добрай волі просім высылаць чэкі на:

**Belarusian-American Center**
**c/o George Naumczyk**
**284 Whitehead Ave.**

### АХВЯРАВАНЬНІ НА БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

| | |
|---|---|
| К. Акула | ам. д. 400 |
| М. і В. Пашкевіч | 200 |
| Ю. Найдзюк | 50 |
| Г. Доўсан | 50 |
| Ю. Найдзюк (у памяць В. Клішэвіча) | 20 |

«Беларус» патрабуе Вашай грашовай дапамогі. Не дапусьцеце, каб газэта спыніла свой выхад дзеля нястачы грашовых сродкаў.

# СЬВ. ПАМ. ЯН ДАМІНІК

Нарадзіўся 10 лютага 1912 г. у Клецку ў сьвядомай беларускай сям'і. Вучыўся ў гімназіях Клецка і Баранавічаў, потым на ўнівэрсытэце ў Вільні. Быўшы ў Вільні, удзельнічаў у шэрагу грамадзкіх імпрэзаў. У 1944 годзе падаўся на Захад. Па закачэньні вайны прыбыў у Лёндан, дзе й закончыў неспадзявана свой жыцьцёвы шлях 21 лютага 1995 г. і быў пахаваны на магільніку ў Кэнсал Грын.

Хай пухам будзе яму ангельская зямля. Шчырыя спачуваньні жонцы Тарамы, дачцы Марыі і зяцю Аляну.

Вечная памяць.

**Сябры**

### ПАДЗЯКА

Усім нашым прыяцелям, хто выказаў нам асабіста спачуваньні з прычыны сьмерці нашага дарагога мужа, бацькі і дзеда, сьв. пам. Янкі Міхалюка, а таксама сябром з ЗША, якія заміж кветак на магілу склалі ахвяры на «Беларуса», адначасна і Англа-Беларускаму Таварыству, Згуртаваньню Беларусаў у Вялікай Брытаніі, Харытатыўнай Сэкцыі ЗБВБ ды паасобным прыяцелям у Вялікай Брытаніі, якія склалі на Фонд Чарнобыльскай Радыяцыі агулам 1375 анг. фунтаў — наша найшчырэйшая падзяка.

**Лёля Міхалюк і сям'я**

**АБВЕСТКА**

## «БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР»

За шматвекавую гісторыю свайго існаваньня беларускі народ стварыў вялікую і самабытную літаратуру, адну з самых багатых у сьвеце. На жаль, яна ў сваім поўным аб'ёме ўсё яшчэ схавана ад нас за сямю замкамі. Сёньня настаў час адамкнуць тыя замкі, вярнуць нашу культурную спадчыну, безь якой мы ня можам усьвядоміць сябе як народ. Якраз дзеля гэтага вядомыя дзеячы навукі і літаратуры і ўтварылі прадстаўнічую арганізацыю — Міжнародны фонд «Беларускі кнігазбор», які паставіў перад сабою задачу выдаць асобнымі тамамі, пад агульнай рубрыкай усё лепшае зь літаратуры, што было створана на беларускай зямлі ад самага пачатку пісьменства да нашых дзён. Гэтае унікальнае выданьне ў яркіх мастацкіх вобразах і ў дакумэнтальных матэрыялах раскрые перад намі ўсю тысячагадовую гісторыю Беларусі. Кнігі «Беларускага кнігазбору» будуць настольныя для кожнага беларуса, які імкнецца пазнаць сваю Бацькаўшчыну, які ня хоча быць Іванам, што ня помніць свайго роду-племені.

Аўтары гэтага шматтомнага сэрыйнага выданьня — як ураджэнцы Беларусі, так і іншаземныя пісьменьнікі, якія жылі на нашай зямлі і расказалі пра яе ў сваіх кнігах. Творы, напісаныя на іншаземных мовах (лацінскай, польскай, яўрэйскай і інш.) ці на стараславянскай і старабеларускай, будуць падавацца ў перакладзе на сучасную беларускую мову.

Распачаць такое маштабнае выданьне ў наш нялёгкі час, вядома-ж, будзе вельмі цяжка. Тут патрэбны немалыя сродкі. Але мы, беларусы, думаецца, дарасьлі ўжо да таго, каб годна паказаць сябе перад сьветам.

Заклікаем усіх сьвядомых беларусаў прыняць самы непасрэдны ўдзел у вяртаньні нашай «прыспанай» культуры, зрабіць свой пасільны ўклад у наша нацыянальнае адраджэньне.

Зьвяртаемся мы і да нашых замежных сяброў. Калі вы хочаце бачыць у цэнтры Эўропы свабодны, незалежны, міралюбівы народ, памажыце яму, чым можна, вярнуць ягоную гістарычную памяць, гвалтоўна ад яго адабраную. Як вядома, народ без сваёй гістарычнай памяці — непрадказальны.

Мы верым, што знойдуцца людзі, калектывы, якія захочуць прафінансаваць выданьне. Выдадзеная на іх сродкі кніга гэтага сапраўднага дамашняга ўнівэрсытэту будзе іх важкім укладам у нашу культуру, стане іх заўсёдным гонарам і, вядома-ж, самай лепшай рэклямай фірмы ці арганізацыі. Імёны фундатараў будуць выдрукаваны на самым відным месцы гэтага прэстыжнага выданьня і такім чынам навечна ўпішуцца ў гісторыю нашай культуры. Выход кожнай кнігі — у прыгожым сэрыйным афармленьні — стане сапраўдным сьвятам беларускага пісьменства. І самым ганаровым удзельнікам гэтага сьвята будзе той, хто дапамог выйсьці кнізе ў сьвет, хто ўклаў у яе свае сродкі, стаўшы такім чынам у пэўнай ступені яе гаспадаром. У доме літаратара плянуецца наладжваць прэм'еры кожнай кнігі «Беларускага кнігазбору» з паказам урачыстасьці па тэлебачаньні, з асьвятленьнем яе на ўсіх сродках масавай інфармацыі.

Тым, хто захоча падтрымаць гэтае маштабнае пачынаньне, паведамляем свае рэквізыты. Наш адрас:

Рэспубліка Беларусь. 220034 г. Мінск, вул. Фрунзе, 5, тэл. 36-09-09. Разьліковы рахунак 700911 у філіяле «Мінсккомплексбанк» код 734.

**Управа Міжнароднага фонду «Беларускі кнігазбор»**